Т. М. Чабатарэўская В. У. Нікалаева

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У 2 частках

Частка 1

*Дапушчана
Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

*2-е выданне,
выпраўленае і дапоўненае*

Мінск
«Адукацыя і выхаванне»
2017

УДК 51(075.3=161.3)
ББК 22.1я721
Ч-12

Пераклад з рускай мовы Н. А. Ваніцкай

Р э ц э н з е н т: кафедра прыватных методык факультэта павышэння кваліфікацыі спецыялістаў адукацыі Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (дацэнт кафедры, кандыдат педагагічных навук, дацэнт *А. С. Шылава*

**Умоўныя абазначэнні:**

 — новая тэма

 — параўнай

* — творчае заданне

**Чабатарэўская, Т. М.**

Ч-12 Матэматыка : вучэб. дапам. для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / Т. М. Чабатарэўская, В. У. Нікалаева; пер. з рус. мовы Н. А. Ваніцкай. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2017. — 136 с. : іл.

ISBN 978-985-471-558-0.

**УДК 51(075.3=161.3)**
**ББК 22.1я721**

**ISBN 978-985-471-958-0 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-471-960-3**

# ЗМЕСТ











Урок 1

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў 2 КЛАСЕ

**1** Падзялі лікі на групы так, каб яны былі чым-небудзь падобныя: 2, 15, 16, 100, 35, 4, 70, 8. Запішы лікі ў групах па нарастанні.

**2** Назаві лікі другога дзясятка. Колькі іх? Які з гэтых лікаў найменшы? Найбольшы? Выпішы лікі, якія дзеляцца на 2, не дзеляцца на 2. Запішы лік, у якім 1 дзясятак і 7 адзінак, сумай разрадных складаемых.




**3** Параўнай, не вылічваючы.

| | | |
|---|---|---|
| 17 * 34 | 17 + 34 * 34 + 17 | 77 – 4 * 77 |
| 25 * 27 | 38 + 4 * 4 + 39 | 89 + 9 * 89 |
| 45 * 43 | 48 – 0 * 48 + 0 | 30 + 6 * 30 |

**4** Параўнай дзве задачы.

а) Даўжыня стараны квадрата 3 см. Знайдзі яго перыметр.

б) Перыметр квадрата роўны 12 см. Знайдзі даўжыню стараны квадрата.

**5** Знайдзі зручным спосабам сумы, выкарыстоўваючы першы прыклад.

| | | |
|---|---|---|
| **6 + 3 + 8 = 17** | 26 + 13 + 18 | 6 + 13 + 28 |
| 16 + 13 + 18 | 16 + 23 + 18 | 16 + 23 + 8 |
| 26 + 23 + 28 | 16 + 13 + 28 | 26 + 3 + 18 |

**6** У адным кавалку тканіны 36 м, а ў другім — 59 м. Ад другога кавалка адрэзалі 12 м. На колькі больш тканіны засталося ў другім кавалку, чым у першым? Пастаў іншыя пытанні да задачы.



**7** Вызнач від кожнага з вуглоў.




**8*** У трох каробках знаходзяцца пакеты з крупамі, макаронамі і цукрам. На першай каробцы напісана «Крупы», на другой — «Макароны», на трэцяй — «Крупы або цукар». У якой каробцы што знаходзіцца, калі ні адзін надпіс не адпавядае таму, што змешчана ў ёй?




**9** На клумбе расло 40 жоўтых і чырвоных руж. Жоўтых руж было 15. Колькі чырвоных руж расло на клумбе?




**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 29 + 3 | 2 + 49 | 45 – 8 | 24 + 32 |
| 48 + 4 | 5 + 67 | 57 – 9 | 42 + 18 |
| 37 + 5 | 4 + 79 | 82 – 4 | 67 – 25 |

## Урок 2

**1** Запішы лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні:
а) суму лікаў 15 і 16 павяліч на 4;
б) ад сумы лікаў 18 і 37 аднімі 9;
в) рознасць лікаў 28 і 9 павяліч на 15;
г) рознасць лікаў 45 і 18 паменшы на 6.

**2** Запішы па нарастанні лікі, у якіх: 2 дзяс.; 5 дзяс. 4 адз.; 10 дзяс.; 7 адз. 3 дзяс.

**3** Выканай дзеянні.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 35 + 29 | 99 – 13 | 35 – 6 | 97 + 3 |
| 18 + 43 | 89 – 19 | 84 – 7 | 45 + 9 |

**4** У адной каструлі 9 л кампоту, а ў другой — 12 л. За абедам дзеці выпілі 10 л кампоту.




Пастаў пытанні, каб задача рашалася так:

12 – 9      12 + 9      12 – 10      (9 + 12) – 10

**5*** У брата і сястры пароўну яблыкаў. Брат даў сястры тры яблыкі. На колькі яблыкаў стала больш у дзяўчынкі, чым у яе брата?

**6** Даўжыня ломанай лініі 43 см. Даўжыня аднаго звяна 15 см, другога — 12 см. Знайдзі даўжыню трэцяга звяна ломанай лініі.




**7** Устаў прапушчаныя лікі.

68 мін = ☐ г ☐ мін　　9 дм = ☐ см

7 дм 5 см = ☐ см　　1 м 6 дм = ☐ дм

**8** Складзі задачу па рысунку і рашы яе.




**9** Падбяры патрэбныя складаемыя.

☐ + 3 = 10　　☐ + 4 = 76　　8 + ☐ = 16

60 + ☐ = 80　　☐ + 7 = 15　　☐ + 25 = 50

**1** Прачытай лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні.

(40 + 15) – 9 100 – (27 + 14)
(74 – 19) + 6 52 + (60 – 24)
(25 + 14) – 14 (46 – 18) + 18

**2** Перыметр трохвугольніка 96 см. Адна старана 23 см, а другая — 34 см. Знайдзі даўжыню трэцяй старaны. Параўнай яе з сумай даўжынь дзвюх іншых старон.




**3** Устаў патрэбныя лікі.

2 дм = ☐ см 3 дм 4 см = ☐ см
1 м = ☐ см 45 см = ☐ дм ☐ см
1 м = ☐ дм 10 дм = ☐ м

**4** Складзі задачы па рысунках і рашы іх.







**5** 

16 * 8 + 8 9 * 9 + 9 18 – 9 * 18 – 6
16 * 9 + 7 9 * 9 + 5 27 – 4 * 28 – 4

**6** У кнізе 85 вершаў. Пасля таго як некалькі вершаў Насця прачытала, ёй засталося прачытаць 28 вершаў. Колькі вершаў Насця прачытала?

**7*** За 2 грушы даюць 3 яблыкі, а за 6 яблыкаў — паўтара дзясятка сліў. Колькі сліў дадуць за 12 груш?




**8** З табліцы выпішы пары лікаў, сума якіх роўная 98.

| | | |
|---|---|---|
| 34 | 64 | 72 |
| 19 | 13 | 79 |
| 26 | 11 | 85 |
| 87 | 60 | 38 |

**9** У садзе расце 17 кустоў: 7 кустоў чорных парэчак, 5 кустоў чырвоных парэчак, астатнія кусты — агрэст. Колькі кустоў агрэсту ў садзе?

**10** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
а) рознасць лікаў 60 і 8 паменшы на 20;
б) 70 паменшы на рознасць лікаў 16 і 9;
в) суму лікаў 25 і 65 павяліч на 10.

## Урок 4

**1** Прачытай выразы: 8 + 7, 18 + 7, 56 + 5.

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
а) сума лікаў 73 і 9;
б) першае складаемае 27, другое — 34;
в) суму лікаў 24 і 37 павяліч на 15;
г) да ліку 23 дадай суму лікаў 14 і 26.

**3** Складзі задачу па кароткім запісе і рашы яе.




**4** У парку расце 13 бяроз, столькі ж клёнаў, а ліп — на 10 менш, чым бяроз і клёнаў разам. Колькі ў парку ліп? Рашы задачу па схеме.




**5** а) Выразі ў дэцыметрах і сантыметрах: 69 см, 38 см, 14 см.
б) Выразі ў метрах і дэцыметрах: 51 дм, 35 дм, 92 дм.
в) Выразі ў дэцыметрах: 4 м, 6 м, 3 м 9 дм.

**6*** У зайцоў, што гулялі пад елкай, 16 вушэй. 2 зайцы пабеглі. Колькі зайцоў было? Колькі засталося?



**7** Вымерай звёны ломанай. Вынікі вымярэння запішы па спаданні.



**8** 29 * 2 дзяс. 9 адз.
69 * 96
85 * 8 дзяс. 6 адз.
2 дзяс. 1 адз. * 12
39 * 3 дзяс.
54 * 5 дзяс.

**9** Запішы разрадны састаў лікаў:
27, 13, 80, 95.

**10** Вася выканаў 15 заданняў па матэматыцы: 3 задачы ён выканаў у два дзеянні, 5 задач — у адно дзеянне і рашыў некалькі прыкладаў. Колькі прыкладаў рашыў Вася?

**11** Складзі лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні.



**1** **Успомні!**

29 + 8 = 37

37 – 8 = **29**

37 – 29 = **8**

> Каб знайсці адно са складаемых, трэба ад сумы адняць другое складаемае.

Знайдзі невядомыя складаемыя.

| | | |
|---|---|---|
| ☐ + 4 = 11 | 52 + ☐ = 89 | 64 + ☐ = 78 |
| 27 + ☐ = 41 | ☐ + 29 = 100 | ☐ + 35 = 99 |

**2** Для каманды купілі 40 чырвоных і жоўтых футболак. Чырвоных футболак было 13. Колькі купілі футболак жоўтага колеру?




**3** У хатняй бібліятэцы 87 кніг: 27 — для дарослых, 20 — для школьнікаў, а астатнія — для дашкольнікаў. Колькі кніг для дашкольнікаў?

**4** Колькі на рысунку прамых вуглоў? Колькі чатырохвугольнікаў? Вымерай стораны аднаго з чатырохвугольнікаў і знайдзі яго перыметр.



**5** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 72 ∗ 70 | 2 дзяс. 5 адз. ∗ 5 дзяс. 2 адз. |
| 28 ∗ 82 | 6 дзяс. ∗ 6 дзяс. 1 адз. |
| 92 ∗ 90 | 3 дзяс. ∗ 30 адз. |

**6*** Браты Ягор, Арцём і Коля — рознага ўзросту. Ягор не старэйшы за Колю, а Арцём не старэйшы за Ягора. Назаві імёны старэйшага, сярэдняга і малодшага братоў.




**7** Пры дапамозе лічбаў 2, 0, 7 запішы ўсе магчымыя двухзначныя лікі. Колькі іх? Найбольшы з гэтых лікаў запішы сумай разрадных складаемых. Знайдзі суму найменшага і найбольшага з гэтых лікаў.

**8** Маса гусі 5 кг, а парасяці — 15 кг. На колькі кілаграмаў гусь лягчэйшая за парася?




**9** Запішы лікі 13, 29, 44, 85, 93 сумай разрадных складаемых.

## Урок 6

**1** Прачытай выразы.

10 – 3 45 – 9 52 – 14

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) рознасць лікаў 28 і 8;
б) памяншаемае 71, аднімаемае 19;
в) лік 84 паменшы на суму лікаў 17 і 5;
г) ад ліку 90 аднімі суму лікаў 18 і 19.

**3** Складзі задачу па рысунку.

Было — ?



Узялі — 14 л Засталося — 30 л



**4** Перыметр квадрата роўны 8 см. Знайдзі яго старану.

**5**

77 + 15 * 87 + 5
83 + 5 * 85 + 3
82 – 25 * 72 – 25

73 – 17 * 73 – 27
70 – 7 * 77 – 10
86 – 15 * 70 + 5

**6** Ад магазіна да дома можна прайсці напрасткі або вакол сквера. Які шлях карацейшы? На колькі метраў?



**7** Устаў прапушчаныя лікі.

6 м 3 дм = □ дм

7 дм 5 см = □ см

53 = □ дзяс. □ адз.

70 = □ дзяс. □ адз.

54 дм = □ м □ дм

34 дм = □ м □ дм

**8*** Назаві суму лікаў у кожным са слупкоў, калі сума лікаў у сярэднім слупку роўная 65.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

**9** Пастаў патрэбную лічбу замест зорачкі.

*5 + 8* = 99

5* + *3 = 82

9* − *5 = 73

7* − *8 = 59

**10** Дзве курыцы вывелі куранят: адна — 12, другая — на 5 менш. Колькі ўсяго куранят вывелі дзве курыцы?



**11** Вылічы.

36 + 14  
30 – 28  
52 + 28  
70 – 63

25 + 75  
100 – 69  
38 + 52  
90 – 41

79 + 21  
50 – 36  
83 + 17  
60 – 48

55 + 45  
70 – 54  
68 + 22  
60 – 23

# Урок 7

**1** **Успомні!**

23 – 9 = 14

14 + 9 = **23**

23 – 14 = **9**

Каб знайсці памяншаемае, трэба да рознасці дадаць аднімаемае.

Каб знайсці аднімаемае, трэба ад памяншаемага адняць рознасць.

Знайдзі невядомыя лікі.

| | | |
|---|---|---|
| □ – 30 = 40 | 17 – □ = 9 | □ – 18 = 20 |
| 30 – □ = 15 | 35 – □ = 15 | □ – 13 = 45 |

**2** Высушылі 11 кг шыпшыны і атрымалі 5 кг сухіх пладоў. Колькі кілаграмаў вады выпарылася?

**3** Запішы лікі, у якіх: 2 дзяс.; 3 дзяс. 1 адз.; 6 адз.; 7 дзяс.; 3 дзяс. 3 адз.
Размясці іх па нарастанні.

**4** Каб паўтарыць вывучанае, настаўніца падрыхтавала некалькі тэстаў. Вучні выканалі 9 тэстаў на тэму «Задачы», 12 тэстаў на тэму «Выразы». Засталося выканаць 8 тэстаў. Колькі тэстаў падрыхтавала настаўніца?

**5** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 3 дм * 30 см | 5 дм 1 см * 5 дм 4 см |
| 1 г * 70 мін | 70 см * 7 дм 1 см |
| 50 мін * 1 г | 1 г 30 мін * 100 мін |

**6*** Як атрымаць 0 з трох пяцёрак?

5 * 5 * 5 = 0

**7** Якія прыклады зашыфраваны?







**8** Квадрат, перыметр якога 20 см, разрэзалі на два аднолькавыя прамавугольнікі. На колькі сантыметраў перыметр квадрата меншы за суму перыметраў прамавугольнікаў?



**9** За дзень сям'я выкапала 13 баразён бульбы. Засталося выкапаць на 4 баразны менш, чым выкапалі. Колькі баразён бульбы было пасаджана?



**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 + 31 | 64 + 27 | 80 – 13 | 76 – 19 |
| 76 + 21 | 35 + 16 | 70 – 28 | 37 – 18 |

**1** **Успомні!**

47 + 3 = 50
___
50 – 3 = 47
50 – 47 = 3

> Складанне правяраецца адніманнем.

50 – 3 = 47
___
47 + 3 = 50
50 – 47 = 3

> Адніманне правяраецца складаннем або адніманнем.

Выканай дзеянні і зрабі праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 98 + 2 | 35 + 5 | 60 – 8 | 30 – 4 |
| 67 + 3 | 46 + 12 | 90 – 5 | 80 – 7 |

**2** У аўтобусе было 17 чалавек. На прыпынку зайшло 5 чалавек, а выйшла 9. Як змянілася колькасць пасажыраў? На колькі?



**3** Як зменіцца рознасць 34 – 17, калі памяншаемае павялічыць (паменшыць) на 6? Калі аднімаемае павялічыць (паменшыць) на 5?

**4** 

| | |
|---|---|
| 2 м * 8 дм | 2 дм 5 см * 52 см |
| 2 дм * 12 см | 2 дм 3 см * 30 см |
| 1 г * 6 мін | 1 г 5 мін * 100 мін |

**5** Даўжыня прамавугольніка роўная 7 см, а шырыня — 3 см. Як зменіцца яго перыметр, калі даўжыню і шырыню павялічыць на 5 см? Калі даўжыню паменшыць на 4 см, а шырыню павялічыць на 3 см?




**6*** Якая маса курыцы і якая маса індыка? Параўнай, хто цяжэйшы і на колькі.




**7** У мяху было 15 кг цукру. Спачатку ў яго дасыпалі 10 кг цукру, а потым адсыпалі 20 кг. Колькі цукру стала ў мяху?




**8** Выканай дзеянні і зрабі праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 – 6 | 70 – 4 | 60 – 27 | 84 – 25 |
| 59 + 7 | 39 + 8 | 75 + 15 | 19 + 31 |

## Урок 9

**1** Вылічы.

90 – (17 + 27)   83 – 27 – 8   (67 – 38) + 9

54 + (34 – 9)   62 + 29 – 14   (21 + 59) – 13

**2** Падводная лодка ішла, апусціўшыся пад ваду, 9 гадзін і 3 гадзіны пасля ўсплыцця. Колькі гадзін рухалася лодка? Складзі адваротныя задачы.



**3** Шэрая чапля можа пражыць 5 гадоў, жаваранак жыве 15 гадоў. Арол жыве столькі, колькі жаваранак і чапля разам. Колькі гадоў жыве арол?

**4** Дай назву кожнай фігуры. Вымерай стораны чатырохвугольніка і знайдзі яго перыметр.



**5*** На стале ляжалі 7 груш і 5 яблыкаў. Калі за абедам з’елі яблыкаў і груш пароўну, то засталіся фрукты аднаго віду. Якія гэта фрукты? Колькі іх засталося? Колькі фруктаў з’елі?

**6**

| | | |
|---|---|---|
| 80 * 90 | 10 * 20 | 3 дзяс. 5 адз. * 36 |
| 84 * 91 | 90 * 91 | 47 * 4 дзяс. 7 адз. |

**7** У двух мяшэчках 27 цукерак. Калі з першага мяшэчка ўзялі 5 цукерак, то ў ім засталося 12 цукерак. Колькі цукерак было ў другім мяшэчку?




**8** Двое кацянят пабеглі ад кошкі ў розныя бакі. Якая адлегласць будзе паміж кацянятамі, калі адно з іх прабегла 9 дм, а другое — 7 дм?




**9** Знайдзі невядомыя кампаненты.

| | | |
|---|---|---|
| 15 + □ = 49 | □ – 46 = 29 | 87 – □ = 28 |
| □ + 34 = 90 | □ – 52 = 16 | 90 – □ = 43 |

## Урок 10

**1** Прачытай выразы.

$6 \cdot 3$ $3 \cdot 6$ $1 \cdot 2$ $9 \cdot 2$

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
а) здабытак лікаў 4 і 3;
б) дзель лікаў 12 і 3;
в) першы множнік 8, другі — 2;
г) дзялімае 16, дзельнік 2.

**3** Каб скласці адзін квадрат, трэба чатыры палачкі. Колькі палачак спатрэбіцца, каб скласці тры такія квадраты?



**4** Замяні сумы здабыткамі.

| | | |
|---|---|---|
| $12 + 12 + 12$ | $7 + 7$ | $0 + 0 + 0$ |
| $1 + 1 + 1 + 1$ | $a + a$ | $3 + 3 + 3$ |

**5** Замяні здабыткі сумамі.

| | | |
|---|---|---|
| $8 \cdot 3$ | $0 \cdot 3$ | $1 \cdot 7$ |
| $11 \cdot 3$ | $17 \cdot 2$ | $24 \cdot 3$ |

**6** На талерцы 4 пірожныя. Колькі пірожных на 2 такіх талерках? Складзі адваротныя задачы і рашы іх.

**7*** Уздоўж дарогі праз кожныя 20 м стаяць слупы. Колькі слупоў размяшчаецца на адлегласці 100 м?




**8** Прывезлі 100 пар абутку: 23 пары для дзяцей, а астатнія — для дарослых. На колькі больш прывезлі пар абутку для дарослых, чым для дзяцей?

**9** Вымерай стораны пяцівугольніка і знайдзі яго перыметр.



**10** Першы лік — 49, другі — 18, трэці — 40. На колькі трэці лік меншы за суму двух першых?

**11** Падбяры невядомыя множнікі.

| | | |
|---|---|---|
| □ · 2 = 6 | □ · 3 = 12 | 2 · □ = 10 |
| 2 · □ = 6 | 3 · □ = 12 | □ · 2 = 10 |
| □ · 2 = 12 | □ · 3 = 6 | 9 · □ = 18 |

## Урок 11

**1** Прачытай выразы.

6 : 2 12 : 3 10 : 2 24 : 3

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) дзель лікаў 8 і 2;

б) дзялімае 18, дзельнік 3;

в) першы множнік 6, другі — 3.

**3** Трое хлопчыкаў падзялілі 9 чарэшань пароўну. Па колькі чарэшань атрымаў кожны?



**4*** Пеця адзначыў на адрэзку 8 пунктаў праз 2 см. Каця на другім адрэзку адзначыла 15 пунктаў праз 1 см. У каго з дзяцей адрэзак даўжэйшы?

**5** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 3 • 2 + 4 | 24 : 3 + 47 |
| 12 : 3 + 9 | 18 : 9 + 78 |
| 21 : 7 + 39 | 90 – (20 : 2) |

**6** На «ўваход» вылічальнай машыны падаюцца лікі 10, 30, 40. Вызнач, які лік атрымаецца на «выхадзе» машыны і колькі разоў машына выканае адніманне.




**7** Замяні сумы аднолькавых складаемых здабыткамі. Запішы новыя выразы.

3 + 3 + 3 + 15          15 + 15 + 15 + 5

2 + 2 + 2 + 24          10 + 10 + 10 – 13

**8** >=<

8 : 2 * 8 • 2          2 • 4 * 4 • 2

8 + 8 + 8 * 8 • 2          12 : 2 * 12 : 3

7 • 2 * 2 • 7          4 + 4 + 4 * 4 • 3

**9** Каця расклала 12 каляровых алоўкаў у каробкі па 6 штук у кожную. Колькі спатрэбілася каробак?



**10** Вылічы.

36 – 18          80 – 47          70 + 25          14 : 2

97 – 19          55 – 36          18 + 36          16 : 8

**1** Для кожнага прыкладу на множанне запішы па два прыклады на дзяленне.

| | | |
|---|---|---|
| 2 • 3 = 6 | 6 • 3 = 18 | 4 • 2 = 8 |
| 8 • 3 = 24 | 9 • 3 = 27 | 3 • 7 = 21 |

**2** 9 хлопчыкаў сабралі па 2 слоікі суніц. Колькі слоікаў ягад сабралі?
Складзі задачу, каб яна рашалася так: 18 : 2.

**3** Ад стужкі адрэзалі прамавугольнік, перыметр якога 20 см. Начарці такі прамавугольнік.



**4** Знайдзі значэнні выразаў з дужкамі.

Узор: 87 – (22 + 24) = 41




Спачатку выконваецца дзеянне ў дужках.

| | |
|---|---|
| 64 – (22 + 41) | 76 – (58 – 19) |
| 93 – (84 + 6) | (8 • 2) + 24 |
| 30 + (41 – 17) | 42 – (16 : 2) |

**5*** Для школы купілі 34 мячы. Баскетбольных і тэнісных — 32 мячы, а тэнісных і футбольных — 29 мячоў. Колькі якіх мячоў купілі для школы?




**6** Устаў прапушчаныя лікі.

3 дм 4 см = ☐ см

80 дм = ☐ м

25 дм = ☐ м ☐ дм

3 м 6 дм = ☐ дм

45 см = ☐ дм ☐ см

70 см = ☐ дм

**7** У дзвюх вазах стаяла па 3 кветкі, а ў трэцяй — 9 кветак. Колькі ўсяго кветак было?



**8** У гаражы было 50 аўтобусаў. У рэйс адправілася 43 аўтобусы, а прыехала ў гараж 9 аўтобусаў. Колькі аўтобусаў пасля гэтага стала ў гаражы?

**9** Знайдзі значэнні выразаў з дужкамі і без дужак. Параўнай іх.

75 + (15 – 7)  87 – (15 + 41)  52 – (7 – 3)

75 + 15 – 7  87 – 15 – 41  52 – 7 – 3

# МНОЖАННЕ І ДЗЯЛЕННЕ



З дапамогай выразаў можна афармляць рашэнне задач.

**Задача 1.** У адным кошыку 25 грыбоў, а ў другім — на 7 грыбоў больш. Колькі грыбоў у другім кошыку?

Для рашэння задачы трэба выканаць складанне лікаў 25 і 7.

Сума 25 + 7 — **лікавы выраз**.

Калі выканаць дзеянне, то атрымаецца лік 32. Гэты лік называюць **значэннем выразу**. Выраз не мае значэння, калі ў ім нельга выканаць якое-небудзь дзеянне. Напрыклад: 25 – 37.

**Задача 2.** У адным кошыку 25 грыбоў, а ў другім — на $a$ грыбоў больш. Колькі грыбоў у другім кошыку?

Для рашэння задачы можна скласці выраз, які змяшчае літару $a$: $25 + a$.

Значэнні літары могуць мяняцца, таму яе называюць **зменнай**, а выраз, які змяшчае зменную, — **выразам са зменнай**.

$25 + a$ — выраз са зменнай

Лікі, якія можна падстаўляць замест зменнай, называюць **значэннямі зменнай**.

Калі $a = 10$, то $25 + a = 25 + 10 = 35$.

**1** У адной каробцы 6 алоўкаў. Колькі алоўкаў у 2 такіх каробках; у 3 такіх каробках; у $b$ такіх каробках? Складзі выразы для рашэння задачы.

**2** Знайдзі значэнні выразаў:
а) $35 - a$, калі $a$ роўна 8, 13;
б) $12 : b$, калі $b$ роўна 2, 3.

**3** У магазіне купілі 3 кг яблыкаў, а груш — $b$ кг. Што абазначаюць выразы?

$3 + b$ $\qquad$ $3 - b$

**4*** У двары гулялі авечкі і куры, у іх было разам 14 ног. Колькі было авечак і колькі курэй, калі ўсяго было 5 галоў?



**5** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $8 \cdot 2$ | $16 : 8$ | $16 + 4 - 8$ |
| $4 \cdot 3$ | $12 : 4$ | $80 - (19 + 14)$ |

**6** Начарці прамавугольнік са старанамі 5 см і 7 см. Знайдзі яго перыметр рознымі спосабамі. Запішы адпаведныя выразы.

**7**

| | | |
|---|---|---|
| 41 * 69 | 35 + 6 * 35 | 42 + 1 * 42 + 4 |
| 61 * 51 | 23 + 5 * 23 | 35 см * 3 дм |






## Прыёмы множання

**1.** Замена здабытку сумай.

$$4 \cdot 2 = 4 + 4 = 8$$

**2.** Выкарыстанне адказу папярэдняга прыкладу.

$$4 \cdot 3 = 8 + 4 = 12$$

**3.** Множанне па частках.

$$4 \cdot 7 = 4 \cdot 5 + 4 \cdot 2 = 20 + 8 = 28$$

$$5 + 2$$

**4.** Выкарыстанне перамяшчальнай уласцівасці дзеяння множання.

$4 \cdot 3 = 3 \cdot 4 = 12$ $\qquad$ $a \cdot b = b \cdot a$

**5.** $a \cdot 1 = a$ $\qquad$ $a \cdot 0 = 0$

**1** Складзі табліцу множання ліку 4.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 · | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

Як, выкарыстоўваючы гэтую табліцу, складзі табліцу множання на лік 4? Запішы.

**2** Знайдзі значэнне выразу $4 \cdot a$, калі $a$ роўна 6, 5, 1.

**3** Бацьку 35 гадоў. Ліза маладзейшая за бацьку на 23 гады, а яе сястры 5 гадоў. На колькі гадоў Ліза старэйшая за сястру?

**4*** Маса зайца на 2 кг большая за масу труса. Маса 2 зайцоў такая ж, як 4 трусоў. Якая маса аднаго зайца?




**5** Начарці прамавугольнік са старанамі 3 см і 7 см, а потым — квадрат, перыметр якога роўны перыметру прамавугольніка.

**6** Мама нарыхтавала 15 л клубнічнага кампоту і 6 трохлітровых слоікаў яблычнага. Колькі літраў кампоту нарыхтавала мама?

**7** Рашы пары прыкладаў, параўнай адказы.

| | | |
|---|---|---|
| 16 – (6 + 2) | і | (16 – 6) + 2 |
| (20 – 10) : 5 | і | 20 – (10 : 5) |
| 12 + (4 : 2) | і | (12 + 4) : 2 |






$4 \cdot 3 = 12$

$12 : 3 = 4$

$12 : 4 = 3$

$a : 1 = a$ $a : a = 1$ $0 : a = 0$

~~$a : 0$~~ На 0 дзяліць нельга.

**1** Выкарыстоўваючы табліцу множання ліку 4, складзі табліцу дзялення на лік 4.

| 4 | 8 | 12 | 16 | 20 | 24 | 28 | 32 | 36 | 40 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |

: 4

**2** Вусна. Складзі табліцу дзялення з дзеллю 4.

8 : ☐ = 4 20 : ☐ = 4 32 : ☐ = 4

12 : ☐ = 4 24 : ☐ = 4 36 : ☐ = 4

16 : ☐ = 4 28 : ☐ = 4 40 : ☐ = 4

**3** З вішні знялі 2 вядры ягад па 6 кг у кожным. Каб зварыць варэнне, вішні расклалі ў міскі па 4 кг у кожную. Колькі місак спатрэбілася?

6 кг


4 кг


**4** Вылічы.

$3 : 3$ $3 : 1$ $0 \cdot 2$ $8 : 8$ $0 : 3$

$2 : 2$ $2 : 1$ $0 : 2$ $0 \cdot 4$ $4 \cdot 0$

**5*** Мама прынесла вафлі. Сын узяў палавіну, а дачка ўзяла палавіну астачы. Пасля гэтага засталося 4 вафлі. Колькі вафель прынесла мама дзецям?




**6** Начарці тры адрэзкі адзін пад адным так, каб верхні меў даўжыню, меншую за 1 дм, але быў даўжэйшы за сярэдні на 4 см і карацейшы за ніжні на 2 см.

**7**

1 м * 3 дм 3 см — 37 * 73

5 дм 7 см * 7 дм 5 см — 89 * 79

1 г 20 мін * 80 мін — 63 * 65

**8** Складзі па схемах выразы і знайдзі іх значэнні.




**9** Майстар за дзень зрабіў 42 дэталі, а вучань — 38. На колькі больш дэталей зробіць майстар, чым вучань, за 7 дзён?

**10**

$28 + (4 \cdot 7) = \square$ $\quad 2 \cdot \square = 14$ $\quad 12 : 2 = \square$

$13 + (9 \cdot 4) = \square$ $\quad 4 \cdot \square = 20$ $\quad 12 : \square = 3$

$60 - (6 \cdot 4) = \square$ $\quad \square \cdot 3 = 12$ $\quad 15 : \square = 5$





Палоску падзялілі на **дзве роўныя** часткі. Кожная з гэтых частак ёсць **адна другая доля** палоскі $\left(\frac{1}{2}\right)$.



Квадрат падзялілі на чатыры роўныя часткі. Адна з гэтых частак — чацвёртая доля квадрата $\left(\frac{1}{4}\right)$.



Круг падзялілі на 8 роўных частак. Адна з гэтых частак — восьмая доля круга $\left(\frac{1}{8}\right)$.

Доля — гэта адна з роўных частак цэлага.

**1** Прамавугольнікі падзелены на роўныя часткі. Якую долю складае зафарбаваная частка кожнага прамавугольніка?

а) 

б) 

**2** Начарці такія фігуры ў сшытку і зафарбуй $\frac{1}{2}$, $\frac{1}{3}$, $\frac{1}{4}$, $\frac{1}{6}$ долі фігур.





**3*** У кошык з яблыкамі паклалі 6 груш. Палавіну ўсіх фруктаў з'елі. У кошыку засталося 10 фруктаў. Колькі яблыкаў было ў кошыку?



**4** Вася запісаў вынікі множання лікаў ад 0 да 10 на лік 4. Знайдзі памылкі, калі яны ёсць, і запішы правільна.

0, 4, 8, 12, 16, 24, 26, 28, 32, 36, 42.

**5** Маса бульдога 22 кг, а спаніэля — на 9 кг меншая. Якая маса ў бульдога і спаніэля разам?



— 22 кг



— ?, на 9 кг меншая

?

**6** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 52 + (90 – 54) | (20 : 4) + 27 | (2 · 4) + 37 |
| 70 – (43 + 16) | (36 : 9) + 49 | (16 : 2) + 39 |

## Урок 17



$\frac{1}{4}$




8 см

$\frac{1}{4}$ ад 8 см — гэта 8 : 4 = 2 (см)

**1** Знайдзі $\frac{1}{2}$ ад 20 см, $\frac{1}{4}$ ад 16 дм, $\frac{1}{4}$ ад 36 см.

**2** Калі ад палоскі даўжынёй 12 см адрэзаць палавіну, то якую даўжыню будзе мець палоска, што засталася?



**3** Перыметр квадрата 32 см. Якая даўжыня яго стараны?

**4** Складзі па схемах выразы і знайдзі іх значэнні.




**5** З адной скрыні, у якой было 16 кг лімонаў, прадалі 6 кг. З другой скрыні, у якой было 12 кг лімонаў, прадалі 5 кг. У якой скрыні стала менш лімонаў? На колькі кілаграмаў?

**6*** Знайдзі заканамернасці і ўстаў патрэбныя лікі замест пытальніка.

а) 8 5 → 3  13 7 → ?

б)

| | | |
|---|---|---|
| 3 | 12 | 6 |
| 4 | 16 | 8 |
| 5 | 20 | ? |

**7** Вылічы.

1 дм + 2 см  1 дм 5 см – 2 см
5 дм 6 см + 3 дм  8 дм 7 см + 3 см
1 дм – 2 см  1 дм : 2
5 дм 6 см + 3 см  8 дм 7 см – 4 дм

**8** Складзі задачы і рашы іх.




**9** Знайдзі значэнне выразу $a \cdot 4 + 5$, калі $a = 3$. Складзі задачу па рысунку, каб яна рашалася так: $3 \cdot 4 + 5$.



**10** Вылічы.

$(16 : 4) \cdot 4$  $(10 : 2) \cdot 2$  $(12 : 4) \cdot 4$
$(0 : 3) \cdot 3$  $(1 \cdot 4) : 4$  $(3 \cdot 4) : 4$



Для абазначэння геаметрычных фігур выкарыстоўваюцца літары лацінскага алфавіта: *A a* (а), *B b* (бэ), *C c* (цэ), *D d* (дэ), *E e* (е), *K k* (ка), *M m* (эм), *O o* (о).

Напрыклад, трохвугольнік можна назваць так:

*ABC*, *ACB*, *BCA*, *BAC*, *CAB*, *CBA*.




**1** Начарці ў сшытку прамы вугал. Адкладзі на яго старанах 3 см і 4 см. Злучы канцы двух адрэзкаў, адкладзеных на старанах вугла. Якая фігура атрымалася? Абазнач яе. Зрабі вымярэнні і знайдзі суму даўжынь старон фігуры.

**2** Падбяры такія лікі, каб няроўнасці сталі правільнымі.

$54 - 10 < 54 - \square$ $\quad$ $19 + 40 > 19 + \square$

$33 + 6 < 33 + \square$ $\quad$ $\square - 4 > 27 + 7$

**3** 1 г * 72 мін $\quad$ 1 г 12 мін * 80 мін

35 см * 3 дм $\quad$ 2 дм 7 см * 7 дм

8 дзяс. * 70 адз. $\quad$ 4 дзяс. 5 адз. * 54

**4*** На першы грузавік пагрузілі палавіну халадзільнікаў. На другі грузавік — астатнія 4. Колькі ўсяго было халадзільнікаў?

**5** Знайдзі $\frac{1}{4}$ ад 16 дм, $\frac{1}{2}$ ад 12 см, $\frac{1}{3}$ ад 30 мін, $\frac{1}{4}$ ад 36 м.

**6** Са 100 кг буракоў атрымліваюць 20 кг цукру. На колькі больш выкарыстана буракоў, чым атрымана цукру?







**7** Аднаві схемы вылічэнняў.










**8** З бочкі адлілі 5 л вады, а потым яшчэ 11 л. Колькі літраў вады было ў бочцы, калі ў ёй засталося 9 л вады?




**9** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 21 : 3 | 14 : 2 | 3 • 4 | 2 • 9 |
| 18 : 2 | 16 : 2 | 3 • 8 | 3 • 6 |






Каб павялічыць лік у некалькі разоў, трэба выканаць дзеянне множання.

Каб паменшыць лік у некалькі разоў, трэба выканаць дзеянне дзялення.

**1** У Светы 3 шары, а ў Вадзіма ў 2 разы больш шароў, чым у Светы. Колькі шароў у Вадзіма?



**2*** У маці дзве дачкі і адзін сын. Адной дачцэ дала піражок, другой — таксама піражок. А для сыночка? Няхай кожная сястрычка дасць брацiку палавіну. Так і зрабілі. Хто атрымаў больш?

**3** Знайдзі значэнні выразаў, калі $a = 16$.

$a + 15$ $\quad$ $a + (a + 35)$ $\quad$ $a : 4$ $\quad$ $(a + a) : 4$

**4** У Вікі было 14 морквін. Дзве з’ела сама, астатнія раздала пароўну тром трусам. Колькі морквін дасталося кожнаму трусу?



**5** Адна з палосак у 3 разы карацейшая. Якая яе даўжыня?




**6** З чатырох аднолькавых малых квадратаў склалі адзін вялікі квадрат. Знайдзі яго перыметр, калі перыметр малога квадрата 8 см.



**7** Запішы прапушчаныя лікі.

□ дм = 30 см

7 дм = □ см

□ дм 8 см = 58 см

□ дм □ см = 65 см

5 дм 1 см = □ см

3 дм □ см = 37 см

**8** Вучні пасадзілі 32 бярозы і 47 ліп. З іх 7 дрэў не прынялося. Колькі дрэў прынялося?

**9** Пастаў замест $a$ лік 5 і параўнай.

$13 - a * 8$ $\quad a + 22 * 25$ $\quad a - 2 * 10$

$16 - a * 10$ $\quad a + 5 * 10$ $\quad a - 1 * 4$



12 : 2 • 4




2 • 7 + 6




У выразах без дужак, што змяшчаюць толькі множанне і дзяленне, дзеянні выконваюцца ў тым парадку, у якім яны запісаны: злева направа.

У выразах без дужак, якія змяшчаюць усе дзеянні, першымі выконваюцца дзеянні множання і дзялення, а затым — дзеянні складання і аднімання.

**1** Прачытай лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | |
|---|---|---|
| 29 + 7 • 4 | 7 • 3 + 18 | 0 • 15 + 13 |
| 24 : 6 + 19 | 21 – 14 : 2 | 52 – 6 • 4 |
| 8 • 4 – 20 | 70 – 7 • 4 | 90 – 4 • 9 |

**2** Па рысунку складзі і рашы адну задачу на множанне і дзве на дзяленне.



**3** Начарці адзін адрэзак даўжынёй 2 см, а другі — у 4 разы даўжэйшы.

**4** Вымерай даўжыню стужкі. Знайдзі $\frac{1}{2}$, $\frac{1}{3}$, $\frac{1}{4}$, $\frac{1}{6}$ яе даўжыні.



**5** У 4 рады пароўну пасадзілі 8 кустоў чырвоных парэчак і 28 кустоў чорных парэчак. Колькі кустоў у кожным радзе? Рашы задачу рознымі спосабамі.

**6*** У пакеце прынеслі цукеркі, арэхі і яблыкі. Яблыкаў было 3, арэхаў — 5. Арэхаў і цукерак было ў 4 разы больш, чым яблыкаў. Колькі цукерак было ў пакеце?

**7** Начарці прамавугольнік, у якога сумы даўжынь процілеглых старон роўныя 12 см і 8 см.

**8** Бацька прынёс з магазіна 6 кг бульбы, а сын — у 2 разы менш. Колькі ўсяго кілаграмаў бульбы купілі?




**9** Падбяры патрэбныя лікі.

| | | |
|---|---|---|
| ☐ + 7 = 35 | ☐ – 12 = 44 | ☐ : 3 = 8 |
| 28 : ☐ = 7 | ☐ · 7 = 28 | 5 · ☐ = 20 |



$x + 2 = 5$




Рашэнне:
$x + 2 = 5$
$x = 5 - 2$
$x = 3$

Праверка:
$3 + 2 = 5$
$5 = 5$

Літара $x$ (ікс) абазначае невядомы лік.
$x + 2 = 5$ — гэта **ўраўненне**.
Рашыць ураўненне — гэта значыць знайсці невядомы лік.

**1** Рашы ўраўненні і выканай праверку.

$x + 7 = 20$ $\quad$ $x - 15 = 27$

$19 - x = 12$ $\quad$ $45 + x = 90$

**2** У школьнай бібліятэцы 7 вучняў узялі па 3 кнігі кожны, а 8 вучняў — па 2 кнігі кожны. Колькі кніг узялі вучні ў бібліятэцы?

**3** Даўжыня прамавугольніка *ABCD* 12 см, а шырыня — у 4 разы меншая. Вылічы перыметр прамавугольніка.




**4** 

$4 \cdot 2 * 4 \cdot 3$ $\quad$ $15 : 3 * 12 : 3$

$3 \cdot 4 * 4 \cdot 3$ $\quad$ $24 : 4 * 16 : 4$

**5*** У Максіма ў 2 разы больш марак, чым у Глеба. Усяго ў іх 3 наборы па 5 марак і 4 наборы па 3 маркі. Колькі марак у кожнага?



**6** Назаві правільныя сказы:
а) здабытак лікаў 1 і 0 роўны 1;
б) усе адназначныя лікі меншыя за 10;
в) лік 20 — гэта найбольшы лік трэцяга дзясятка;
г) некаторыя лікі ад 60 да 70 меншыя за 40;
д) усе прамавугольнікі — квадраты;
е) некаторыя прамавугольнікі — квадраты;
ж) усе квадраты — прамавугольнікі.

**7** Прачытай выразы, знайдзі іх значэнні.

$50 - (12 + 17)$ $39 + 14 - 23$ $4 \cdot 2 + 36$
$20 + 18 - 9$ $86 - (52 + 16)$ $8 \cdot 3 - 15$

**8** Начарці квадрат са стараной 4 см. Падзялі яго на 4 роўныя часткі. Зафарбуй $\frac{1}{4}$ квадрата. Знайдзі перыметр зафарбаванага квадрата.

**9** У адной кнізе 16 старонак, а ў другой — 24. За колькі дзён можна прачытаць гэтыя кнігі, калі кожны дзень чытаць па 10 старонак?

**10** Рашы ўраўненні.

$17 + x = 51$ $27 - x = 18$ $x + 49 = 80$

## Урок 22



$x \cdot 4 = 32$




$x : 4 = 9$




Каб знайсці невядомы множнік, трэба здабытак падзяліць на вядомы множнік.

Каб знайсці невядомае дзялімае, трэба дзель памножыць на дзельнік.

Каб знайсці невядомы дзельнік, трэба дзялімае падзяліць на дзель.

**1** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 4 = 12$ $\qquad$ $x : 3 = 7$ $\qquad$ $40 : x = 10$

**2** Прачытай выразы, знайдзі іх значэнні.

| | | |
|---|---|---|
| $36 : 4 + 21$ | $59 + 18 : 2$ | $71 - 10 : 2$ |
| $40 + 4 \cdot 3$ | $43 - 16 : 4$ | $21 : 7 - 1$ |
| $20 + 8 \cdot 1$ | $24 + 8 \cdot 0$ | $9 \cdot 0 + 29$ |

**3** Каця купіла 20 сшыткаў у клетку, а ў лінейку — у 2 разы менш. Колькі ўсяго сшыткаў купіла Каця?

**4** Знайдзі $\frac{1}{2}$ ад 12, $\frac{1}{4}$ ад 16, $\frac{1}{3}$ ад 21, $\frac{1}{8}$ ад 24.

**5** Складзі выразы па схемах і знайдзі іх значэнні.







**6*** Дзесяцілітровае вядро напоўнена вадой. Як пры дапамозе сямілітровага і трохлітровага вёдзер адмераць 5 л вады?




**7** (>, <, =)

4 дм * 44 см    55 см * 5 дм

3 м * 3 дм    2 дм * 2 м

3 дм * 30 см    1 г * 80 мін

**8** У адным бітоне было 22 л малака, а ў другім — менш. Калі з першага пералілі ў другі 7 л, то ў абодвух бітонах малака стала пароўну. Колькі літраў малака было ў другім бітоне спачатку?




**9** 30 яек расклалі ў 3 упакоўкі пароўну. Колькі яек у кожнай упакоўцы?

**10** Рашы ўраўненні.

$4 \cdot x = 32$    $28 : x = 4$    $x : 3 = 8$




$5 \cdot 2 = 5 + 5 = 10$ $\quad$ $5 \cdot 4 = 15 + 5 = 20$

$5 \cdot 7 = 5 \cdot 5 + 5 \cdot 2 = 25 + 10 = 35$

$7 = 5 + 2$

**1** Выкарыстоўваючы прыёмы множання, складзі табліцу множання ліку 5.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 • | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

**2** Выкарыстоўваючы табліцу множання ліку 5, знайдзі здабыткі.

$2 \cdot 5$ $\quad$ $4 \cdot 5$ $\quad$ $7 \cdot 5$ $\quad$ $9 \cdot 5$

$3 \cdot 5$ $\quad$ $6 \cdot 5$ $\quad$ $8 \cdot 5$ $\quad$ $10 \cdot 5$

**3** 40 кг бульбы і 25 кг морквы расклалі ў пакеты па 5 кг у кожны. Колькі ўсяго пакетаў атрымалася?

40 кг $\quad$ 5 кг $\quad$ 25 кг

?

**4** Вылічы.

37 – 7 $\quad$ 46 – 6 $\quad$ 69 – 9 $\quad$ 84 – 4

37 – 30 $\quad$ 46 – 40 $\quad$ 69 – 60 $\quad$ 84 – 80

**5*** Паша сказаў Мішу: «Дай мне 5 цукерак, і тады ў нас будзе цукерак пароўну». Колькі цукерак было ў кожнага, калі разам у іх было 20 цукерак?




**6** Складзі ўраўненні па схемах і рашы іх.




**7** Пеця прачытаў 30 старонак кнігі за 5 дзён. Кожны дзень ён чытаў аднолькавую колькасць старонак. Колькі старонак у дзень чытаў Пеця?

**8** Ад паласы даўжынёй 1 м адрэзалі 3 палоскі па 7 см. Якая стала даўжыня паласы?



**9** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $3 \cdot 7 + 8 \cdot 2$ | $6 \cdot 3 + 2 \cdot 4$ | $(17 - 2) : 3$ |
| $9 \cdot 5 + 7 \cdot 2$ | $3 \cdot 5 + 2 \cdot 8$ | $(25 - 1) : 3$ |
| $3 \cdot 5 + 9 \cdot 2$ | $7 \cdot 3 + 5 \cdot 3$ | $(32 - 2) : 3$ |



**Задача.** У радзе 6 парт. За кожнай партай сядзяць 2 вучні. Колькі вучняў сядзіць у радзе?

Рашэнне: 2 • 6 = 12 (в.)

Складзі дзве адваротныя задачы, каб яны рашаліся так:

а) 12 : 2 = 6 (п.) б) 12 : 6 = 2 (в.)

Што агульнае ў задачах? Чым яны адрозніваюцца?

**1** Каб пачаставаць сябровак, Маша купіла 3 каробкі пірожных па 5 штук у кожнай. Колькі пірожных у 3 каробках? Складзі яшчэ дзве задачы.




**2** Пастаў замест * знак «+» або «–», а замест □ пастаў лікі, каб запісы сталі правільнымі.

38 + 60 * □ = 56  
34 + 6 = 35 * □  
43 + 7 = 48 * □

13 – 9 > 11 * □  
59 + 20 * □ = 34  
11 – 7 = 12 * □

**3** Складзі па рысунку ўраўненне і рашы яго.




**4*** Кожная з дзяўчынак — Света, Лена, Таня, Галя і Наташа — купіла маржанае або піроaccess-нае. Галя і Света, а таксама Света і Лена купілі аднолькавае, а Таня і Света — рознае. Што купіла кожная дзяўчынка?




**5** Начарці прамавугольнік, даўжыня якога 6 см, а шырыня 1 см. Зафарбуй $\frac{1}{2}$ прамавугольніка.

**6** Складзі задачу па рысунку і рашы яе.




**7** Знайдзі памылкі і выправі іх.

| | | |
|---|---|---|
| $10 < 4 \cdot 2$ | $4 \cdot 5 > 19$ | $8 \cdot 4 = 32$ |
| $4 \cdot 3 > 12$ | $2 \cdot 7 < 20$ | $7 \cdot 3 < 24$ |
| $3 \cdot 5 < 16$ | $3 \cdot 6 > 21$ | $2 \cdot 9 = 18$ |






$5 \cdot 3 = 15$

$15 : 3 = 5$

$15 : 5 = 3$

**1** Выкарыстоўваючы табліцу множання ліку 5, складзі табліцы дзялення на лік 5 і з дзеллю 5.







**15 : 5 = 3** **15 : 3 = 5**

**2** Знайдзі $\frac{1}{5}$ ад 20, 35, 25, 40, 5.

**3** Маша сарвала на градцы 12 агуркоў, потым яшчэ 3 агуркі. 5 агуркоў яна парэзала ў салату. Колькі агуркоў засталося?

**4** Першы лік 2, другі — у 7 разоў большы. Трэці лік у 2 разы меншы, чым другі. Знайдзі трэці лік.

**5** Прачытай выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | |
|---|---|---|
| 50 + 40 : 4 | 80 – 30 : 5 | 25 : 5 + 18 |
| 35 : 5 + 23 | 3 • 8 – 13 | 5 • 4 + 32 |
| (43 – 16) : 3 | (47 – 27) : 5 | (35 + 15) : 5 |

**6*** Колькі кубікаў ураўнаважаць брусок?




**7** а) Фільм працягваўся 1 гадзіну 40 мінут. Колькі гэта мінут?
б) Цягнік спазніўся на 70 мінут. Колькі гэта гадзін і колькі мінут?

**8** Начарці схемы вылічэнняў па ўзоры.

**40 – 2 • 7 = 26**




| | |
|---|---|
| 76 – 3 • 2 | 8 • 2 + 24 |
| 30 + 2 • 4 | 90 – 2 • 0 |
| 9 • 2 + 32 | 42 + 3 • 7 |

**9** У вазе ляжала 6 мандарынаў, груш — у 3 разы больш. Лімонаў ляжала ў вазе ў 9 разоў менш, чым груш. Колькі лімонаў ляжала ў вазе?

**10** 


| | |
|---|---|
| 25 + 19 * 19 + 25 | 36 – 18 * 9 + 9 |
| 47 – 20 * 27 | 16 * 36 – 10 |
| 45 – 16 * 46 – 17 | 33 + 28 * 91 – 29 |






**1** Знайдзі лік, $\frac{1}{3}$ якога роўная 2, 7, 8, 4.

**2** Перыметр прамавугольніка роўны 26 см, а даўжыня адной стараны — 6 см. Знайдзі даўжыню другой стараны прамавугольніка.

**3** У магазіне за першы дзень прадалі 15 мяхоў цукру. За другі дзень — на 2 мяхі больш. За трэці дзень прадалі цукру столькі, колькі за першы і другі дні разам. Колькі ўсяго цукру прадалі за тры дні?




**4** Рашы ўраўненні.

$x + 23 = 72$ $48 + x = 83$ $x \cdot 3 = 27$

$x - 36 = 45$ $96 - x = 37$ $24 : x = 6$

**5*** Бацька падзяліў 15 абрыкосаў паміж сынам і дачкою так, што дачка атрымала столькі разоў па 3 абрыкосы, колькі сын па 2 абрыкосы. Колькі абрыкосаў дасталася кожнаму?



. . . ?

. . . ?

**6** Прачытай выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | |
|---|---|---|
| 20 : 2 + 59 | (53 – 23) : 10 | 20 • 1 – 8 |
| 20 : 2 + 8 | 26 + 4 • 2 | 3 • 6 – 10 |
| 16 : 8 + 18 | (16 – 8) • 2 | 18 : 6 + 27 |

**7** Знайдзі значэнні выразаў пры $b = 4$.

$b + 5 \cdot b$ $(b + 7) + 49$

**8** Было — ?



Вырасцілі яшчэ — 70

Стала — 97

Складзі задачу і рашы яе.

**9** У адным кошыку было 35 грыбоў, а ў другім — у 5 разоў менш. Колькі грыбоў было ў двух кошыках?

**10** 

| | |
|---|---|
| 20 : 2 * 2 • 5 | 3 • 4 * 4 • 3 |
| 15 : 5 * 15 : 3 | 5 • 7 * 7 • 3 |
| 16 : 2 * 20 : 5 | 6 • 3 * 5 • 6 |






$6 \cdot 2 = 6 + 6 = 12$ $6 \cdot 3 = 12 + 6 = 18$

$6 \cdot 7 = 6 \cdot 5 + 6 \cdot 2 = 30 + 12 = 42$

$5 + 2$

**1** Выкарыстай найбольш зручныя прыёмы множання і складзі табліцу множання ліку 6.

| 6 • | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**2** Карыстаючыся табліцай множання ліку 6, знайдзі здабыткі.

$7 \cdot 6$ $8 \cdot 6$ $9 \cdot 6$ $6 \cdot 0$

**3** Для класа купілі 25 сшыткаў у клетку і столькі ж у лінейку. Усе сшыткі расклалі ў стосы па 10 штук у кожны. Колькі атрымалася стосаў?

Колькі стосаў?



10

. . .



10

**4** Знайдзі значэнні выразаў пры $a = 6$.

$a + 6 \cdot a$ $a : 3 + a$ $8 \cdot a - 21$

$(a - 6) \cdot a$ $(a + 9) : 5$ $a \cdot 9 + 36$

**5*** Якая маса гарбуза і якая кавуна?




**6** Рашы ўраўненні.

$17 - x = 8$ $x - 17 = 51$ $x \cdot 5 = 50$

**7** У некалькіх парасят разам 28 ног. Колькі ўсяго парасят? Складзі яшчэ дзве задачы.



**8** Вусна. На колькі роўных частак падзелена кожная фігура? Якая доля кожнай фігуры зафарбавана?

а) 

б) 

**9** На першым участку расце 12 раслін кукурузы. На другім — на 4 расліны менш. На трэцім участку расце на 6 раслін больш, чым на першым і другім разам. Колькі раслін кукурузы на трэцім участку?

**10** Вылічы.

$14 + 23$ $28 + 14$ $2 \cdot 6$ $3 \cdot 6$

$42 - 17$ $42 - 30$ $4 \cdot 3$ $5 \cdot 6$






$9 : 3 = 3$ (см)

**Доля ліку знаходзіцца дзеяннем дзялення.**

**1** На паліцы 50 кніг. $\frac{1}{5}$ іх складаюць кнігі па матэматыцы. Колькі на паліцы кніг па матэматыцы?




**2** Знайдзі: палавіну ліку 18; трэцюю долю ліку 15; чацвёртую долю ліку 40; пятую долю ліку 30.

**3** Вусна. Колькі трохвугольнікаў на рысунку? Назаві вострыя, прамыя і тупыя вуглы трохвугольнікаў. Прачытай іх па-рознаму.




**4** У клетках 58 трусоў. Белых — 18, чорных — у два разы менш, а астатнія — шэрыя. Колькі шэрых трусоў у клетках?

**5*** У Тараса і Лены было пароўну сліў. Лена з’ела 5 сліў, і 20 у яе засталося. Тарас з’еў у 2 разы больш, чым Лена. Колькі сліў у яго засталося?

**6** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $5 \cdot 4 + 17$ | $90 - 4 \cdot 7$ | $72 - 7 \cdot 4$ |
| $39 - 8 \cdot 3$ | $5 \cdot 8 + 19$ | $63 + 3 \cdot 9$ |

**7** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 5 = 45$ $\quad$ $4 \cdot x = 28$ $\quad$ $x - 17 = 49$

**8** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.










**9** На канцэрт прыйшло 48 чалавек. Жанчын было 30, а мужчын і дзяцей пароўну. Колькі дзяцей прыйшло на канцэрт?

**10** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

| Дзялімае | 26 + 14 | 24 | 35 : 5 | 80 – 59 | 5 • 8 |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзельнік | 5 | 13 – 7 | 1 | 7 | 4 |

## Урок 29






$6 \cdot 2 = 12$

$12 : 2 = 6$

$12 : 6 = 2$

**1** З дапамогай табліцы множання ліку 6 складзі дзве табліцы на дзяленне: на лік 6 і з дзеллю 6.







**2** Знайдзі $\frac{1}{6}$ ад 18, 24, 30, 42.

**3** Адрэзак даўжынёй 8 см падзялілі на дзве роўныя часткі. Даўжыню адной з іх павялічылі на 3 см. Начарці атрыманы адрэзак.




**4** Складзі задачу па рысунку і рашы яе.



**5** Пастаў дужкі, каб роўнасці сталі правільнымі.

| | | |
|---|---|---|
| $6 \cdot 4 - 2 = 12$ | $31 - 10 - 3 = 24$ | $12 : 2 + 2 = 3$ |
| $6 - 2 \cdot 3 = 12$ | $40 - 15 : 5 = 5$ | $16 : 4 \cdot 2 = 2$ |

**6** У паход пайшлі 15 вучняў трэцяга класа, а другога — на 3 вучні больш. Вучняў першага класа — у 2 разы менш, чым другога. Колькі вучняў першага класа пайшло ў паход? Колькі ўсяго вучняў пайшло ў паход?

**7*** Букет складаецца з 4 нарцысаў, 5 цюльпанаў і некалькіх гваздзікоў. Цюльпанаў і гваздзікоў у 3 разы больш, чым нарцысаў. Колькі гваздзікоў у букеце?




**8** У Лёні 18 дыскаў, у Дзімы — у 2 разы менш. У Ромы на 15 дыскаў больш, чым у Дзімы. Колькі дыскаў у Ромы?

**9** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $30 : 5 + 17$ | $(96 - 42) : 6$ | $36 + 18 : 3$ |
| $72 - 24 : 6$ | $96 - 42 : 6$ | $12 : 6 + 18 : 6$ |
| $54 : 6 - 48 : 6$ | $45 - 6 \cdot 5$ | $100 - 32 : 4$ |

## Урок 30






$3 \cdot 4 = 12$ (см)

Цэлае па яго долі знаходзіцца дзеяннем множання.

**1** 6 лістоў складаюць чвэрць сшытка. Колькі ўсяго лістоў у сшытку?



**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $8 \cdot 5 + 19$ | $26 + 4 \cdot 9$ | $80 - (19 + 37)$ |
| $90 - 7 \cdot 6$ | $97 - 3 \cdot 8$ | $32 + (81 - 54)$ |

**3** Знайдзі лік на «выхадзе» вылічальнай машыны, калі на яе «ўваход» падаць лікі 20, 25, 30, 40.




**4*** У хлопчыка няма братоў, а ў яго сястры столькі ж братоў, колькі сясцёр. Колькі дзяцей у сям'і?

**5** Перыметр многавугольніка 16 см. Усе яго стораны аднолькавыя і роўныя 4 см. Колькі старон у многавугольніка? Як называецца гэтая фігура? Начарці яе.

**6** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) рознасць лікаў 78 і 19 павяліч на 9;

б) суму лікаў 19 і 11 паменшы ў 10 разоў;

в) дзель лікаў 18 і 9 павяліч у 3 разы.

**7** Для класа купілі 100 сшыткаў у клетку і лінейку. Сшыткаў у лінейку было 42. На колькі больш купілі сшыткаў у клетку, чым у лінейку?




**8** 1 м * 10 дм　　　1 дм 8 см * 2 дм

40 мін * $\frac{1}{3}$ г　　　50 см * $\frac{1}{2}$ м

**9** Вінаград на трэць складаецца з цукру. Колькі кілаграмаў вінаграду трэба ўзяць, каб атрымалася 10 кг цукру?

**10** Вылічы.

45 : 9 • 2　　　8 • 3 : 6　　　32 : 4 • 5

# Урок 31

**Успомні!**

**1**



Прамы вугал   Востры вугал   Тупы вугал

**2** Вызнач пры дапамозе вугольніка, якія вуглы змяшчае чатырохвугольнік *ABCD*.




**3** Прадаўцу пад канец дня засталося прадаць 25 кг лімонаў у 5 аднолькавых скрынях і 7 кг апельсінаў у адной скрыні. На колькі кілаграмаў скрыня з лімонамі лягчэйшая за скрыню з апельсінамі?

**4** Устаў прапушчаныя лікі.

| | |
|---|---|
| 2 м = □ дм | 1 г 20 мін = □ мін |
| 6 дм = □ см | 85 мін = □ г □ мін |
| 50 см = □ дм | 70 мін = □ г □ мін |

**5*** Калі Міша нарысуе яшчэ 4 малюнкі, то ў яго стане на 2 малюнкі больш, чым у Грышы. У каго зараз больш малюнкаў — у Мішы ці ў Грышы? На колькі?

**6** Антон прачытаў 9 старонак. Гэта $\frac{1}{6}$ усяго часопіса. Колькі старонак у часопісе?

**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 80 – 24 : 6 | 24 + 6 • 8 | 27 + 5 • 8 |
| 64 + 36 : 4 | 60 – 36 : 6 | 79 – 6 • 7 |
| 75 – 8 • 2 | 90 – 9 • 3 | 5 • 7 + 29 |

**8** Перыметр трохвугольніка *ABC*, у якога ўсе стораны маюць аднолькавую даўжыню, роўны 24 см. Знайдзі перыметр квадрата *ACDK*.




**9** На кірмашы гаспадыня купіла 2 пакеты цыбулі па 5 кг у кожным і 6 кг морквы. Колькі ўсяго кілаграмаў гароднiны купіла гаспадыня?

**10** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 43 – 3 • 9 | (58 – 38) : 2 |
| (54 – 49) • 6 | (67 – 58) • 3 |

## Урок 32















$1 > \frac{1}{2}$ $\frac{1}{2} > \frac{1}{4}$ $\frac{1}{4} > \frac{1}{8}$

**1** Параўнай з дапамогай рысункаў.

$\frac{1}{2}$ і $\frac{1}{4}$ 1 і $\frac{1}{4}$ $\frac{1}{8}$ і $\frac{1}{2}$ $\frac{1}{4}$ і $\frac{1}{8}$ 1 і $\frac{1}{8}$

**2** Знайдзі $\frac{1}{6}$ ад 12, 36, 54.




**3** Перад абедам у магазіне прадалі 5 скрынь памідораў па 6 кг у кожнай, а пасля абеду — 4 такія скрыні. Колькі кілаграмаў памідораў прадалі за ўвесь дзень? Карыстаючыся дадзенай схемай, складзі план рашэння задачы.

**4** Рашы ўраўненні.

$x - 5 = 85$ $x + 17 = 34$ $x \cdot 6 = 54$

$21 + x = 45$ $x - 16 = 25$ $x : 6 = 7$

**5*** Каністра з бензінам мае масу 22 кг. Калі яна запоўнена напалавіну, яе маса 12 кг. Якая маса пустой каністры?



**6** Пастаў дужкі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

5 • 2 + 2 : 2 = 11 2 • 5 + 4 : 2 = 7

5 • 2 + 2 : 2 = 15 2 • 5 + 4 : 2 = 9

**7** Запішы здабыткі па нарастанні.

2 • 7 7 • 3 2 • 6 2 • 9 6 • 4 6 • 7

**8** Вусна. Якія лікі будуць на «выхадзе» вылічальнай машыны?






**9** Спачатку вучні зрабілі 6 буслянят з шышак, а потым — у 4 разы больш. Колькі ўсяго буслянят зрабілі вучні?

**10** 

2 м * 8 дм 3 см * 7 дм

2 дм * 12 дм 2 дм 5 см * 52 см

7 м * 3 м 2 дм 3 см * 30 см





  

Жоўтых квадратаў у 3 разы менш.







Адрэзак *KM* у 5 разоў даўжэйшы.

Каб даведацца, у колькі разоў адзін лік большы (меншы) за другі, трэба большы лік падзяліць на меншы.

**1** У колькі разоў курыца лягчэйшая за парася? На колькі кілаграмаў парася цяжэйшае за курыцу?




**2** Па даных табліцы складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 6 · 6 | 36 : 4 | 90 | 85 | 6 · 9 |
|---|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 6 : 2 | 12 : 6 | 71 – 37 | 54 : 6 | 28 |

**3** У шахматным гуртку займаюцца 30 хлопчыкаў, а дзяўчынак — у 5 разоў менш. Колькі ўсяго дзяцей займаецца ў шахматным гуртку?

**4** Знайдзі даўжыню ломанай лініі. Адказ запішы ў сантыметрах, а потым — у дэцыметрах і сантыметрах.




**5*** Коля, Сцёпа, Маша і Вася — найлепшыя лыжнікі ў класе. На спаборніцтвы трэба сабраць каманду з трох чалавек. Колькімі спосабамі гэта можна зрабіць?




**6** Вылічы.

$54 - 54 : 6$ $\quad$ $48 : 6 + 42 : 6$

$24 + 36 : 6$ $\quad$ $24 - 6 + 12 : 6$

$18 : 6 \cdot 8$ $\quad$ $54 : 6 + 3 \cdot 8$

$3 \cdot 8 : 6$ $\quad$ $60 : 10 + 18 : 6$

**7** Колькі тупых, вострых і прамых вуглоў на рысунку?




**8** За зіму сям'я з'ела 6 слоікаў вішнёвага варэння і 3 такія ж слоікі малінавага. У колькі разоў больш сям'я з'ела вішнёвага варэння, чым малінавага?

**9** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 6 = 24$ $\quad$ $x - 7 = 13$ $\quad$ $12 - x = 6$ $\quad$ $4 \cdot x = 28$

## Урок 34



Трохвугольнік, у якім усе вуглы вострыя, называецца **востравугольным**.







Трохвугольнік, які мае прамы вугал, называецца **прамавугольным**.




Трохвугольнік, які мае тупы вугал, называецца **тупавугольным**.




**1** Колькі на рысунку трохвугольнікаў? Дай ім назвы ў залежнасці ад вуглоў, якія яны маюць.

**2** Якое слова зашыфравана?

45 – 6

6 • 5 – 5

21 : 3 + 7

24 – 14




90 – 30 : 6

42 – (21 – 5)

3 • 6 + 18 : 3

30 – 8 : 4

**3** Растлумач рашэнні ўраўненняў.

$7 + 3 + x = 14$
$10 + x = 14$
$x = 14 - 10$
$x = 4$
Праверка:
$7 + 3 + 4 = 14$
$14 = 14$

$16 - 6 - x = 5$
$10 - x = 5$
$x = 10 - 5$
$x = 5$
Праверка:
$16 - 6 - 5 = 5$
$5 = 5$

**4** Рашы ўраўненні.

$8 + 4 + x = 21$ $\qquad$ $18 - 2 - x = 7$

**5** Складзі задачу па кароткім запісе і рашы яе.

I — 26
II — ?, на 2 менш, чым у I
III — ?
} 77

**6*** Размясці 45 зайцоў у 9 клетках так, каб ва ўсіх клетках была розная колькасць зайцоў.

**7** Першы лік — 50, другі — 26. Трэці лік у 6 разоў меншы за рознасць першых двух лікаў. Знайдзі трэці лік.

**8** Знайдзі памылкі, рашы правільна.

| | | |
|---|---|---|
| 50 – 27 = 37 | 56 + 44 = 100 | 81 – 26 = 65 |
| 65 – 32 = 33 | 63 – 45 = 18 | 78 + 19 = 76 |
| 64 + 28 = 82 | 57 + 23 = 70 | 46 + 29 = 75 |

**1** Вышыня сасны 15 м. Бяроза ў 5 разоў ніжэйшая за сасну. На колькі метраў бяроза ніжэйшая за сасну?




**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
а) здабытак лікаў 6 і 8 павяліч на 30;
б) дзель лікаў 49 і 7 павяліч у 2 разы;
в) суму лікаў 16 і 14 паменшы ў 10 разоў;
г) рознасць лікаў 78 і 18 паменшы ў 6 разоў.

**3** Колькі трохвугольнікаў на рысунку? Вызнач іх від. Вымерай стораны і знайдзі перыметр кожнага трохвугольніка.




**4** Рашы ўраўненні.

$32 : x = 8$ $a : 6 = 4$ $27 + y = 50$

$x - 54 = 30$ $6 \cdot a = 48$ $y - 18 = 39$

**5*** Рыбалоў злавіў 17 рыб і расклаў іх на 5 кучак так, што ў кожнай кучцы аказалася розная колькасць рыб. Раскладзі і ты гэтак жа.

**6** Максім падцягнуўся на турніку 10 разоў, што на 3 разы больш, чым падцягнуўся Косця. Колькі разоў падцягнуўся Косця?

**7**

2 дзяс. 7 адз. * 7 дзяс. 50 см * $\frac{1}{2}$ дм

49 * 4 дзяс. 9 адз. $\frac{1}{5}$ м * 2 дм

**8** Мішавы канікулы працягваліся 9 дзён. З іх 3 дні Міша правёў у турпаездцы. Якую частку канікул Міша правёў у турпаездцы?




**9** У двары гулялі 6 дзяўчынак і 10 хлопчыкаў. Яны падзяліліся на каманды па 8 чалавек у кожнай. Колькі атрымалася каманд?

**10** Вылічы.

$28 + 5 \cdot 3$ $100 - 5 \cdot 7$ $14 + 32 : 8$

$21 : 7 + 49$ $62 + 4 \cdot 8$ $40 - 40 : 5$



**Задача.** Цана каробкі фламастараў 4 рублі. Колькі рублёў каштуюць 3 такія каробкі?

| Цана | Колькасць | Кошт |
|---|---|---|
| 4 р. | 3 к. | ? |

Рашэнне:
4 • 3 = 12 (р.)

Каб знайсці кошт, трэба цану памножыць на колькасць.

Да задачы можна скласці дзве адваротныя.

1. Тры аднолькавыя каробкі фламастараў каштуюць 12 рублёў. Знайдзі цану каробкі фламастараў.

| Цана | Колькасць | Кошт |
|---|---|---|
| ? | 3 к. | 12 р. |

Рашэнне:
12 : 3 = 4 (р.)

Каб знайсці цану, трэба кошт падзяліць на колькасць.

2. Купілі некалькі каробак фламастараў па цане 4 рублі і заплацілі 12 рублёў. Колькі каробак фламастараў купілі?

| Цана | Колькасць | Кошт |
|---|---|---|
| 4 р. | ? | 12 р. |

Рашэнне:
12 : 4 = 3 (к.)

Каб знайсці колькасць, трэба кошт падзяліць на цану.

**1** Цана аднаго метра тканіны 9 рублёў. Колькі каштуюць 5 м такой тканіны?

**2** Колькі на рысунку трохвугольнікаў? Вымерай даўжыні старон трохвугольніка *BCK* і знайдзі яго перыметр. Ці з'яўляецца трохвугольнік *BCK* прамавугольным?




**3** Вылічы.

(89 – 77) : 6     (27 + 15) : 6     40 : 5 • 3

(100 – 94) • 8     (9 + 36) : 5     48 : 6 • 4

**4*** Начарці адрэзак даўжынёй 8 см. Начарці другі адрэзак, трэць якога роўная палавіне першага адрэзка.

**5** Рашы ўраўненні.

$8 + 12 + x = 57$     $90 - 8 - x = 9$

$12 : 6 + x = 12$     $7 \cdot 6 - x = 24$

**6** Купілі 4 аднолькавыя тарты і заплацілі 40 рублёў. Знайдзі цану аднаго торта.

**7** Вылічы.

6 • 5 + 19     90 – 42 : 6     24 : 6 • 3

27 + 4 • 6     14 + 8 • 3     54 : 6 • 4



**Задача.** На 6 аднолькавых касцюмаў зрасходавалі 18 м тканіны. Колькі метраў тканіны трэба на 9 такіх касцюмаў?




| Расход тканіны на адзін касцюм | Колькасць касцюмаў | Агульны расход тканіны |
|---|---|---|
| Аднолькавы | 6 | 18 м |
| | 9 | ? |

**1** Паменшы: 54 у 6 разоў; 42 у 6 разоў; 36 у 4 разы; 27 на 9.
Павяліч: 9 у 3 разы; 18 на 26; 8 у 6 разоў; 28 на 6.

**2** У 5 аднолькавых пакетах было 10 кг цукру. 2 пакеты цукру зрасходавалі для прыгатавання варэння. Колькі кілаграмаў цукру зрасходавалі на варэнне? Колькі цукру засталося?

**3** Вымерай адрэзкі *AB* і *MK*. У колькі разоў адзін з іх карацейшы за другі? На колькі сантыметраў адзін даўжэйшы за другі?

A •———• B

M •———————————• K

**4** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 6 • (37 – 29) | 54 : 6 • 4 | 12 : 4 |
| 4 • (0 + 9) | 48 : 8 : 3 | 18 : 3 |
| 3 • (12 – 12) | 42 : 6 • 5 | 14 : 2 |
| 2 • (25 – 15) | 45 : 5 • 3 | 24 : 8 |

**5*** Выкарыстоўваючы толькі адзін раз лічбы 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, напішы чатыры лікі, каб яны ў суме далі лік 100.

**6** Начарці прамавугольнік даўжынёй 6 см і шырынёй 2 см. Падзялі яго на квадраты са стараной 1 см. Зафарбуй $\frac{1}{2}$ гэтага прамавугольніка.

**7** Размясці па нарастанні.

| | | |
|---|---|---|
| 6 м | 60 см | 60 дм 6 см |
| 6 дм 6 см | 66 дм | 69 см |

**8** 6 пакетаў соку каштуюць 12 рублёў. Колькі каштуюць 9 такіх пакетаў?

**9** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 8 • 4 + 18 | (51 – 27) : 6 | (43 + 17) : 6 |
| 54 : 6 + 36 | (64 – 37) : 3 | (72 – 52) : 5 |



$7 \cdot 3 = 7 + 7 + 7$

$7 \cdot 5 = 7 \cdot 3 + 7 \cdot 2 = 21 + 14 = 35$

$7 \cdot 6 = 35 + 7 = 42$

$7 \cdot 8 = 8 \cdot 7 = 56$

**1** Выкарыстай прыёмы множання і складзі табліцы множання ліку 7 і на лік 7.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 • | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

**2** >=<

$8 \cdot 7$ * $7 \cdot 8$    $5 \cdot 7$ * $7 \cdot 6$

$7 \cdot 9$ * $7 \cdot 7$    $10 \cdot 7$ * $7 \cdot 10$

**3** Складзі задачу па кароткім запісе і рашы яе.



| Расход гаручага за 1 гадзіну | Колькасць гадзін | Агульны расход гаручага |
|---|---|---|
| Аднолькавы | 6 | 42 л |
| | 4 | ? |

**4** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) дзель лікаў 24 і 6 павяліч у два разы;

б) здабытак лікаў 3 і 9 павяліч на 27;

в) суму лікаў 25 і 57 паменшы на дзель лікаў 54 і 6;

г) лік 80 паменшы на рознасць лікаў 67 і 39.

**5*** Тры курыцы за 3 дні знеслі 3 яйкі. Колькі яек знясуць 12 курэй за 12 дзён, калі будуць несціся гэтаксама?



**6** Знайдзі перыметр трохвугольніка з роўнымі старанамі, калі даўжыня адной стараны 7 см.




**7** Знайдзі $\frac{1}{2}$ ад 1 дм, $\frac{1}{3}$ ад 12 см, $\frac{1}{4}$ ад 24 г.

**8** У парку спілавалі 6 старых дрэў, а пасадзілі 18 маладых. У колькі разоў больш дрэў пасадзілі, чым спілавалі?

**9** За 3 аднолькавыя пліткі шакаладу заплацілі 9 рублёў. Знайдзі цану адной пліткі шакаладу.



**10** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $7 \cdot 7 + 21$ | $60 - 7 \cdot 2$ | $7 \cdot 6 + 7 \cdot 4$ |
| $7 \cdot 9 - 40$ | $25 + 7 \cdot 3$ | $(35 - 28) \cdot 5$ |
| $7 \cdot (6 : 2)$ | $21 : 3 \cdot 6$ | $6 \cdot 4 : 3$ |





Круг умясціўся ўнутры чатырохвугольніка, значыць, плошча круга меншая, чым плошча чатырохвугольніка.

**1** Параўнай на вока плошчы фігур:

а) квадрата і маленькага круга;

б) трохвугольніка і прамавугольніка;

в) трохвугольніка і вялікага круга;

г) двух кругоў.

   

**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 48 + 36 : 9 | 36 : 9 • 4 | (51 – 19) : 8 |
| 54 : (6 + 3) | 33 + 9 • 3 | 91 – 3 • 9 |
| 7 • 3 + 39 | 72 – 4 • 7 | 80 – 4 • 6 |

**3** У дзіцячы садок прывезлі мандарыны. Пасля таго як на працягу пяці дзён расходавалі па 9 кг мандарынаў у дзень, засталося 18 кг. Колькі кілаграмаў мандарынаў прывезлі ў дзіцячы садок?

**4** З’елі 7 піражкоў, гэта $\frac{1}{4}$ усіх піражкоў, што спяклі. Колькі піражкоў спяклі?

**5** Адзнач чатыры пункты. Праз кожныя два з іх правядзі прамую. Колькі прамых атрымалася? Ці можна чатыры пункты размясціць так, каб праз іх праходзілі: адна прамая; дзве прамыя; тры прамыя?

**6** Запішы прапушчаныя лікі.

| | |
|---|---|
| 2 м 8 дм = □ дм | 1 г 12 мін = □ мін |
| 2 дм 6 см = □ см | 80 мін = □ г □ мін |
| 4 м 4 дм = □ дм | 1 г 30 мін = □ мін |
| 57 дм = □ м □ дм | 75 мін = □ г □ мін |

**7*** Тры рыбаловы злавілі 41 карася. Калі першы рыбалоў адклаў для юшкі 7 карасёў, другі — 3, а трэці — 4, тады ў кожнага рыбалова засталася аднолькавая колькасць рыб. Колькі рыб злавіў кожны рыбалоў?

**8** У адным стосе 30 сшыткаў, а ў другім — на 12 сшыткаў менш. Усе сшыткі з другога стоса раздалі вучням па 3 сшыткі кожнаму. Колькі вучняў атрымала сшыткі?

**9** 


| | |
|---|---|
| 18 : 9 * 8 | 48 : 8 * 8 |
| 27 : 9 * 9 | 45 : 9 * 8 |
| 18 : 9 + 12 * 15 | 9 • 4 – 14 * 50 |

## Урок 40






7 • 3 = 21

21 : 7 = 3

21 : 3 = 7

**1** Карыстаючыся табліцай множання ліку 7, складзі дзве табліцы дзялення: на лік 7 і з дзеллю 7.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 14 | 21 | 28 | 35 | 42 | 49 | 56 | 63 | 70 |
| | | | | | | | | | |

: 7

**2** Маса 2 аднолькавых кошыкаў з яблыкамі 12 кг. Якая маса 5 такіх кошыкаў?




**3** Начарці тупы вугал. Ад вяршыні на яго старанах адмерай па 4 см. Злучы канцы двух адрэзкаў. Якая фігура атрымалася?

**4** Запішы лікі трэцяга дзясятка па спаданні.

**5** Заштрыхаваны 3 клеткі прамавугольніка, што складае $\frac{1}{7}$ прамавугольніка. Колькі такіх клетак змяшчае прамавугольнік?



**6*** Напісана 99 лікаў: 1, 2, ..., 99. Колькі разоў у запісе сустракаецца лічба 5? Лічба 0?

**7** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 7 = 42 - 14$ $\quad$ $87 - a = 19 + 28$

$x - 12 = 36 : 6$ $\quad$ $25 - x = 8 \cdot 2$

$7 \cdot x = 49 - 28$ $\quad$ $x + 47 = 93 - 13$

**8** Правер, ці правільна паказаны стрэлкамі здабыткі і дзелі лікаў.

(4 · 6) 24 $\quad$ (63 : 9) 7

(3 · 7) 21 $\quad$ (21 : 7) 2

(3 · 8) 24 $\quad$ (14 : 7) 3

**9** У паштальёна Печкіна ў сумцы 21 газета, 6 часопісаў і 1 пісьмо. У колькі разоў больш у сумцы газет, чым часопісаў і пісьмаў?



**10** Знайдзі $\frac{1}{7}$ лікаў 14, 21, 42, 49.

## Урок 41



**Задача.** У 6 скрынях 30 кг ягад. Колькі ягад у дзвюх такіх скрынях? Рашы задачу двума спосабамі.




| Маса ў адной скрыні | Колькасць скрынь | Агульная маса |
|---|---|---|
| Аднолькавая | 6 | 30 кг |
| | 2 | ? |

**1** Дадзены лікавыя значэнні выразаў: 27, 36, 45, 8, 60, 56, 18, 44, 52. Запішы правільныя роўнасці.

| | | |
|---|---|---|
| $7 \cdot 7 + 7$ | $(2 + 7) \cdot 5$ | $8 : 4 \cdot 9$ |
| $63 - 21 : 7$ | $48 - 8 : 2$ | $3 \cdot 3 \cdot 3$ |
| $(90 - 34) : 7$ | $12 + 3 \cdot 8$ | $12 + 5 \cdot 8$ |

**2** Вымерай адрэзкі. У колькі разоў адрэзак *AB* карацейшы за адрэзак *CD*?

*A* ——— *B*

*C* ————————— *D*

**3** У колькі разоў: 20 м больш за 4 м; 24 кг больш за 3 кг; 2 г менш за 12 г; 5 л менш за 35 л? Запішы толькі адказы.

**4*** У Валодзі, Мішы, Косці, Андрэя і Сяргея было 4 наборы шахмат і адзін набор шашак. Што было ў кожнага хлопчыка, калі ў Косці і Мішы, а таксама ў Косці і Сяргея былі розныя наборы?




**5** Лікі, запісаныя ў верхнім радку, памнож на кожны лік, запісаны ў ніжнім. Колькі прыкладаў атрымалася?




**6**

5 • 6 – 5 ∗ 20 1 дм 2 см – 2 см ∗ 2 дм

27 : 3 + 2 ∗ 10 1 м 5 дм – 1 м ∗ 3 дм

**7** Вусна. Ці маюць прамая *AB* і адрэзак *CD* хаця б адзін агульны пункт?




**8** У альбоме было 36 фатаграфій. У яго паклалі яшчэ 6 фатаграфій. У колькі разоў фатаграфій у альбоме стала больш, чым паклалі?

**9** Вылічы.

45 : 9 • 2 8 • 3 : 6 32 : 4 • 8

56 : 8 • 3 6 • 6 : 9 2 • 9 : 3






$8 \cdot 2 = 8 + 8 = 16$

$8 \cdot 3 = 16 + 8 = 24$

$8 \cdot 5 = 8 \cdot 3 + 8 \cdot 2 = 24 + 16 = 40$

$8 \cdot 6 = 6 \cdot 8 = 48$

**1** Складзі табліцы множання ліку 8 і на лік 8.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 • | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

**2** Знайдзі значэнні выразаў.

$9 \cdot 8$ $\quad 10 \cdot 8$ $\quad 8 \cdot 8 + 8$ $\quad 8 \cdot 8 + 8 \cdot 2$

$7 \cdot 3 + 4$ $\quad 32 : 8 - 4$ $\quad 24 : 6 - 2$ $\quad 24 - 8 : 2 + 4$

**3** У 5 каробках 35 кг пячэння. Колькі пячэння ў 10 такіх каробках?

| Маса ў адной каробцы | Колькасць каробак | Агульная маса |
|---|---|---|
| Аднолькавая | 5 | 35 кг |
| | 10 | ? |

**4** Перыметр аднаго квадрата 20 см, а другога — 40 см. У колькі разоў старана аднаго квадрата меншая за старану другога квадрата?

**5*** На паліцу з падручнікамі па матэматыцы паставілі 16 падручнікаў па беларускай мове. Потым узялі палавіну ўсіх кніг, пасля чаго засталося 20 падручнікаў. Колькі падручнікаў па матэматыцы было на паліцы?




**6** Устаў патрэбную лічбу замест зорачкі, каб атрымалася правільная роўнасць або правільная няроўнасць.

7* = 7*  6* < 61  39 = 3* + 9

*6 > 86  *5 = 60 + *  50 = 1* + 35

**7** Вучань спісаў у сшытку 8 лістоў. Няспісаных лістоў засталося ў 5 разоў больш. Колькі ўсяга лістоў было ў сшытку?




**8** Складзі выразы і знайдзі іх значэнні.

100 – : 49 : 7; 8 · 8; 32 : 4

48 : 6; 7 · 6; 8 · 6 : + 49

**1** 9 кг лімонаў расклалі ў 3 каробкі пароўну. Колькі такіх каробак трэба, каб раскласці 27 кг лімонаў?



? каробак

9 кг

27 кг

**2** Знайдзі значэнні выразаў.

$8 \cdot 4 + 8 \cdot 7$  $42 : (21 - 15)$  $8 \cdot 5 + 27$

$8 \cdot 3 + 8 \cdot 8$  $8 \cdot 9 - (42 - 7)$  $64 - 7 \cdot 8$

$26 - 24 : 8$  $32 - 24 + 64 : 8$  $63 + 9 \cdot 4$

**3** Начарці прамавугольнік *ABCD*, вымераўшы яго даўжыню і шырыню. Знайдзі перыметр. Як зменіцца перыметр прамавугольніка, калі яго даўжыню павялічыць у 2 разы?




**4** Параўнай, не вылічваючы.

$4 \cdot 6$ * $6 \cdot 4$  $3 \cdot 7$ * $3 \cdot 8$  $8 \cdot 4$ * $8 \cdot 7$

$5 \cdot 5$ * $5 \cdot 3$  $9 \cdot 2$ * $9 + 9 + 9$  $7 \cdot 2$ * $3 \cdot 7$

**5** Рашы ўраўненні.

$x + 7 = 41$  $4 \cdot x = 36$  $9 \cdot x = 27$

$x \cdot 4 = 28$  $27 : a = 3$  $24 : x = 8$

**6** Вусна. Якія лікі выдасць вылічальная машына, калі на яе «ўваход» пададзены лікі: 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10?




**7*** Груша каштуе ў два разы даражэй, чым яблык. Што даражэй: 6 яблыкаў ці 3 грушы? Што даражэй і ў колькі разоў: 6 груш ці 6 яблыкаў; 12 яблыкаў ці 3 грушы?

**8** Знайдзі даўжыню чацвёртай долі першай стужкі і шостай долі другой стужкі.




**9** Складзі задачу па табліцы і рашы яе.

| Расход тканіны на адну сукенку | Колькасць сукенак | Агульны расход тканіны |
|---|---|---|
| Аднолькавы | 8 | 24 м |
| | ? | 27 м |

**10** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) суму лікаў 16 і 14 паменшы ў 6 разоў;

б) ад ліку 40 аднімі здабытак лікаў 7 і 4;

в) рознасць лікаў 15 і 8 павяліч у 3 разы.






$8 \cdot 4 = 32$

$32 : 4 = 8$

$32 : 8 = 4$

**1** Карыстаючыся табліцай множання ліку 8, складзі дзве табліцы дзялення: на лік 8 і з дзеллю 8.

**2** 12 л вінаграднага соку разлілі ў двухлітровыя слоікі і такую колькасць соку разлілі ў трохлітровыя слоікі. Колькі атрымалася слоікаў з сокам? На колькі менш трохлітровых слоікаў, чым двухлітровых?




**3** Начарці адрэзак даўжынёй 16 см. Начарці адрэзкі, даўжыня якіх роўная:

а) $\frac{1}{4}$ даўжыні дадзенага адрэзка;

б) $\frac{1}{8}$ даўжыні дадзенага адрэзка.

Параўнай даўжыні адрэзкаў.

**4** Рашы ўраўненні.

$82 - 12 - x = 17$ $\qquad$ $24 : 3 \cdot x = 64$

$x \cdot 7 = 64 - 8$ $\qquad$ $28 : x = 14 : 2$

**5*** У класе ў радзе каля акна 6 парт, у сярэднім — 5 парт, а ў радзе каля дзвярэй за парты могуць сесці 12 вучняў. Колькі ўсяго вучнёўскіх месцаў у класе?

**6** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 16 – 18 : 2 | 60 : 6 – 8 | 100 – 7 · 6 |
| (80 – 17) : 7 | (74 – 18) : 7 | 100 – 42 : 7 |
| 45 + (17 – 8) | 45 – (17 + 8) | (18 + 36) : 6 |

**7** Колькі трохвугольнікаў на рысунку? Якія яны?




**8** Для ўрокаў выяўленчага мастацтва купілі 5 каробак фламастараў па 8 у кожнай і 5 каробак па 6 фламастараў. Колькі ўсяго фламастараў купілі? Рашы задачу рознымі спосабамі.



**9** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 82 – 36 : 4 | 56 + 4 · 9 | 47 + 9 · 2 |
| 52 + 27 : 3 | 39 – 15 : 5 | 30 – 16 : 2 |



**Задача.** Алесі 14 гадоў. Яна старэйшая за брата ў 2 разы. Колькі гадоў брату?




А. — 14 гадоў

Б. — ?, у 2 разы маладзейшы

**1** Шырыня прамавугольніка *ABCD* роўная 8 см, гэта ў 3 разы менш, чым яго даўжыня. Знайдзі перыметр прамавугольніка.




**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) рознасць лікаў 32 і 14 павяліч на 28;

б) суму лікаў 8 і 20 паменшы ў 7 разоў;

в) дзель лікаў 48 і 6 павяліч на 58;

г) здабытак лікаў 8 і 7 паменшы ў 7 разоў.

**3** Рашы ўраўненні.

$8 \cdot x = 64 : 8$ $\qquad$ $72 : a = 9 + 63$

$x + 64 = 65 - 1$ $\qquad$ $x - 18 = 52 + 8$

**4** Пастаў дужкі, каб роўнасці сталі правільнымі.

$9 \cdot 6 - 4 = 18$ $\qquad$ $28 : 9 - 2 = 4$

$46 - 10 : 2 = 18$ $\qquad$ $54 : 18 - 9 = 6$

**5*** У Андрэя і Барыса разам 5 арэхаў, у Андрэя і Арцёма — 6, у Барыса і Арцёма — 7 арэхаў. Колькі ўсяго арэхаў у Андрэя, Барыса і Арцёма разам?




**6** Майстар за 4 гадзіны зрабіў 24 дэталі, а вучань за 3 гадзіны зрабіў 6 такіх дэталей. У колькі разоў больш дэталей рабіў за 1 гадзіну майстар, чым вучань?

**7** У цэху працавала $n$ жанчын, а мужчын — на 20 больш. Колькі ўсяго чалавек працавала ў цэху?



**8** Дзядулю 63 гады. Гэта на 54 гады больш, чым унуку. Колькі гадоў унуку?

**9** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $8 \cdot 8 + 8$ | $18 : 2 + 39$ | $9 \cdot 7 + 17$ |
| $36 : 6 + 50$ | $48 : 8 + 30$ | $80 - 16 : 2$ |
| $56 : 8 + 1$ | $72 : 8 + 9$ | $51 + 7 \cdot 7$ |
| $49 : 7 + 2$ | $80 : 8 + 3$ | $63 + 3 \cdot 9$ |






$9 \cdot 2 = 9 + 9 = 18$

$9 \cdot 5 = 9 \cdot 2 + 9 \cdot 3 = 18 + 27 = 45$

**1** Складзі табліцы множання ліку 9 і на лік 9.




**2** У 3 скрыні паклалі 12 кг сліў. Колькі такіх скрынь спатрэбіцца, каб пакласці 8 кг сліў?

**3** Начарці квадрат, перыметр якога роўны 16 см, і прамавугольнік са старанамі, роўнымі 8 см і 3 см. Параўнай іх перыметры.

**4** Складзі ўраўненні і рашы іх:
а) невядомы лік павялічылі ў 9 разоў і атрымалі 72, знайдзі невядомы лік;
б) невядомы лік паменшылі ў 3 разы і атрымалі 9, знайдзі невядомы лік.

**5** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $9 \cdot 3 + 9 \cdot 8$ | $12 + 7 \cdot 9$ | $3 \cdot 3 \cdot 7$ |
| $9 \cdot 6 + 9 \cdot 2$ | $(23 - 18) \cdot 9$ | $2 \cdot (27 - 18)$ |
| $100 - 9 \cdot 9$ | $54 : 6 \cdot 9$ | $9 \cdot 4 + 64$ |

**6** Адзін лік $m$, а другі — у 9 разоў большы. Знайдзі суму гэтых лікаў пры $m = 3$.

**7*** Дзяўчынкі Бярозкіна, Вярбіцкая, Сасноўская пасадзілі бярозу, вярбу і сасну. Кожная дзяўчынка пасадзіла дрэва, ад назвы якога не паходзіць яе прозвішча. Якое дрэва пасадзіла кожная дзяўчынка, калі вядома, што Бярозкіна пасадзіла не сасну?



Б В С



Б В С

**8** Маса кавуна 9 кг. Гэта ў 3 разы больш, чым маса дыні. Знайдзі масу дыні.

**9** Знайдзі.

$\frac{1}{9}$ ад 81  $\frac{1}{8}$ ад 56  $\frac{1}{10}$ г  $\frac{1}{2}$ дм

$\frac{1}{8}$ ад 64  $\frac{1}{9}$ ад 27  $\frac{1}{6}$ г  $\frac{1}{5}$ дм

**10** У двух аднолькавых кавалках 18 м тканіны. Колькі тканіны ў 6 такіх кавалках?




**11** $>$ $<$ $=$ 35 : 35 * 35 : 1  1 г 20 мін * 90 мін

0 • 30 * 0 : 20  2 дзяс. 5 адз. * 46 адз.



**Задача.** У магазіне на 20 рублёў мама купіла дзіцячыя футболкі па цане 5 рублёў, а сын на 8 рублёў купіў столькі ж пар шкарпэтак. Знайдзі цану пары шкарпэтак.

| Цана | Колькасць | Кошт |
|---|---|---|
| 5 р. | Аднолькавая | 20 р. |
| ? | | 8 р. |

**1** Знайдзі значэнні выразаў.

$7 \cdot 8 - 18 + 41$ $\quad$ $7 \cdot 9 - 47 + 36$

$63 : 9 + 34 - 22$ $\quad$ $56 : 8 + 39 - 28$

$7 \cdot 6 - 20 + 17$ $\quad$ $6 \cdot 8 - 19 + 21$

**2** У трохвугольніка *АМО* старана *АМ* = 7 см, *АО* = *ОМ* = 5 см. Знайдзі перыметр трохвугольніка.




**3*** Міша захацеў даведацца, колькі гадоў дзядулю. Дзядуля сказаў: «Калі ад найбольшага двухзначнага ліку аднімеш 90, вынік павялічыш у тры разы і дадасі 43, то даведаешся, колькі мне гадоў». Колькі гадоў дзядулю?

**4** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 9 = 63$ $\quad$ $81 - x = 73$ $\quad$ $x : 9 = 8$

$5 \cdot x = 45$ $\quad$ $49 + x = 64$ $\quad$ $36 : x = 9$

**5** Ад 20 м стужкі адрэзалі $\frac{1}{4}$ яе даўжыні. Колькі метраў стужкі адрэзалі? Колькі метраў стужкі засталося?




**6** Колькі батарэек можна купіць на 10 рублёў, калі цана батарэйкі 2 рублі?

**7** Выпішы даўжыні, меншыя за 4 дм:

27 см, 4 дм 5 см, 53 см, 48 см, 1 дм 7 см, 28 см, 3 дм 4 см, 3 дм.

**8** На прышкольным участку вырасцілі 27 руж. $\frac{1}{3}$ іх зрэзалі для букетаў. Колькі руж засталося?

**9** Параўнай, не вылічваючы.

| | | |
|---|---|---|
| 3 • 7 * 3 • 8 | 49 : 7 * 42 : 7 | 4 • 9 * 7 • 9 |
| 8 • 7 * 6 • 7 | 28 : 7 * 49 : 7 | 35 : 7 * 42 : 7 |
| 6 • 3 * 3 • 6 | 54 : 9 * 54 : 6 | 9 • 2 * 2 • 8 |

## Урок 48









Плошчу квадрата са стараной 1 см называюць **квадратным сантыметрам**. Запісваецца: 1 кв. см або 1 $см^2$.

**1** Падлічы, колькі квадратных сантыметраў змяшчае квадрат; прамавугольнік. Чаму роўная іх плошча?





**2** У магазін прывезлі 8 кошыкаў клубніц па 7 кг у кожным. 5 кошыкаў прадалі. Колькі кілаграмаў клубніц засталося прадаць?

**3** Складзі па схемах выразы і знайдзі іх значэнні.



**4** Невядомы лік павялічылі на 12 і атрымалі 36. Складзі ўраўненне і рашы яго.

**5*** Пеця гаворыць сябру: «Я злавіў многа вялікіх рыб, а маленькіх — у два разы менш. Усяго ў мяне 16 рыб». Ці праўду ён сказаў?




**6**

| 85 – | 47 + | 7 · |
|---|---|---|
| $42 : 6$ | $45 : 9$ | $21 : 7$ |
| $54 : 6$ | $6 \cdot 6$ | $48 : 6$ |
| $40 : 5$ | $4 \cdot 7$ | $54 : 9$ |

**7** Начарці трохвугольнік з тупым вуглом. Ці можна начарціць трохвугольнік з двума тупымі вугламі?

**8** Швачка зрасходавала на пашыў штаноў 14 м тканіны, выкарыстоўваючы па 2 м на кожныя штаны. Колькі метраў тканіны пайшло на столькі ж сукенак, калі на адну сукенку ішло 3 м тканіны?

**9** Вылічы.

$3 \cdot 9 - 3 \cdot 8$ $\quad$ $4 \cdot 3 + 4 \cdot 7$ $\quad$ $8 \cdot 4 - 3 \cdot 4$

$5 \cdot 6 + 5 \cdot 4$ $\quad$ $3 \cdot 8 - 3 \cdot 3$ $\quad$ $5 \cdot 8 - 3 \cdot 8$

$9 \cdot 6 - 9 \cdot 5$ $\quad$ $6 \cdot 9 + 6 \cdot 6$ $\quad$ $7 \cdot 2 - 4 \cdot 2$






$9 \cdot 4 = 36$

$36 : 4 = 9$

$36 : 9 = 4$

**1** Складзі табліцы дзялення на лік 9 і з дзеллю 9.

**2** На адным станку за гадзіну вырабілі 4 дэталі, а на другім — на 3 дэталі больш. За колькі гадзін на другім станку можна вырабіць 49 дэталей?




**3** Складзі задачу па рысунку.




**4** Начарці два адрэзкі: адзін даўжынёй 1 дм 6 см, а другі — у 4 разы карацейшы. Якая даўжыня другога адрэзка?

**5** Стораны трохвугольніка роўныя 27 см, 31 см і $a$ см. Складзі выраз для вылічэння перыметра гэтага трохвугольніка. Знайдзі перыметр, калі $a = 10, 27$.

**6** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| (49 – 28) : 7 | 36 : 9 + 78 | 67 – 5 • 9 |
| (16 + 54) : 10 | 90 – 81 : 9 | 72 + 63 : 9 |
| (60 – 24) : 9 | 70 – 27 : 9 | 19 – 9 : 9 |

**7*** Устанаві заканамернасць у размяшчэнні лікаў і знайдзі лікі, якіх не хапае.

а)

| | | |
|---|---|---|
| 14 | 9 | 5 |
| 24 | 19 | 5 |
| 21 | 7 | ? |

б)

| | | |
|---|---|---|
| 2 | 5 | 7 |
| 8 | 9 | 5 |
| 5 | 7 | ? |

**8** Якія прыклады зашыфраваны?




**9** У вялікім кошыку 32 агуркі. Гэта ў 4 разы больш, чым у маленькім. Колькі агуркоў у маленькім кошыку?

**10**

| Лікі | 6 | 8 | 18 | 9 | 21 | 64 | 24 | 32 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Знайдзі | палавіну | | трэць | | | $\frac{1}{8}$ | | |

## Урок 50






$10 \cdot 5 = 10 \cdot 4 + 10 = 40 + 10 = 50$

$10 \cdot 7 = 10 \cdot 5 + 10 \cdot 2 = 50 + 20 = 70$

5 + 2




$10 \cdot 6 = 60$

$60 : 6 = 10$

$60 : 10 = 6$

**1** Складзі табліцы множання ліку 10 і на лік 10.

| 10 • | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**2** Карыстаючыся табліцай множання ліку 10, складзі табліцы дзялення на лік 10 і з дзеллю 10.

**3** На трох паліцах стаяла па 10 кніжак. Да іх дабавілі яшчэ некалькі кніжак, і ўсяго стала 62 кніжкі. Колькі кніжак дабавілі на паліцы?




**4** Параўнай з дапамогай рысункаў $\frac{1}{2}$ і $\frac{1}{3}$; $\frac{1}{4}$ і $\frac{1}{3}$; $\frac{1}{2}$ і $\frac{1}{4}$.

**5** Запішы ў сантыметрах: 1 м, 1 дм, 1 дм 7 см, 10 дм, 8 дм 1 см.

**6*** Вядома, што: у доме № 14 больш паверхаў, чым у доме № 10; у доме № 11 больш паверхаў, чым у доме № 13, і менш, чым у доме № 10; у доме № 14 паверхаў менш, чым у доме № 12. Які з гэтых дамоў самы высокі, а які — самы нізкі?

**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $6 \cdot 5 - 10$ | $56 : 8 \cdot 10$ | $72 : 8 \cdot 10$ |
| $8 \cdot 10 + 10$ | $40 : (2 \cdot 5)$ | $81 : (90 : 10)$ |
| $(4 + 12) : 4$ | $(23 + 17) : 8$ | $(71 - 36) : 7$ |
| $(18 + 27) : 9$ | $(19 + 16) : 5$ | $(63 - 27) : 9$ |

**8** Старана квадрата роўная $x$ см. Запішы выраз для вылічэння перыметра квадрата. Знайдзі значэнне перыметра пры $x$, роўным 7, 9.




**9** 

| | |
|---|---|
| $8 \cdot 9 * 7 \cdot 9$ | $6 \cdot 9 + 6 * 6 \cdot 10$ |
| $6 \cdot 3 * 3 \cdot 6$ | $7 \cdot 3 + 3 * 7 \cdot 4$ |
| $10 \cdot 2 * 10 \cdot 3$ | $5 \cdot 8 + 8 * 8 \cdot 6$ |

**10** У кнізе 100 старонак. Вася чытаў яе 10 дзён па 7 старонак штодня. Колькі старонак яму засталося прачытаць?

**11** Рашы ўраўненні.

| | | |
|---|---|---|
| $x \cdot 9 = 27$ | $25 - x = 8$ | $x : 2 = 6$ |
| $3 \cdot b = 18$ | $24 : a = 8$ | $40 + x = 83$ |






З дапамогай палеткі — празрыстай плёнкі, падзеленай на квадраты са стараной 1 см, можна вызначыць, колькі квадратных сантыметраў змяшчае фігура, або знайсці плошчу фігуры ($S$) у квадратных сантыметрах.

$$S = 2 + 4 : 2 = 4\ (\text{см}^2)$$

**1** Знайдзі плошчы фігур з дапамогай палеткі.

а)



б)



в)



**2** Дзве дзяўчынкі і хлопчык прапалолі 19 радоў капусты. Дзяўчынкі прапалолі па 7 радоў. Колькі радоў прапалоў хлопчык?

**3** На прамой *AB* адзнач пункты *K* і *M*. Запішы прамені з пачаткамі ў гэтых пунктах.

**4** Знайдзі:

а) суму, калі першае складаемае 42, а другое — дзель лікаў 21 і 7;

б) дзель, калі дзялімае 42, а дзельнік — рознасць лікаў 20 і 14;

в) рознасць здабыткаў лікаў 8 і 8, 8 і 5;

г) суму дзелей лікаў 64 і 8, 35 і 5.

**5** 

| | |
|---|---|
| $9 \cdot 7 * 9 \cdot 6 + 9$ | $9 \cdot 2 + 40 * 97$ |
| $54 : 6 * 54 - 6$ | $9 \cdot 4 * 9 \cdot 5 - 9$ |
| $9 \cdot 3 + 20 * 50$ | $9 \cdot 5 * 5 \cdot 9$ |

**6*** У Васі было некалькі цукерак. Ён раздзяліў іх паміж сёстрамі. Малодшай сястры ён даў палавіну ўсіх цукерак і яшчэ 2, а старэйшай сястры — астатнія 3 цукеркі. Колькі цукерак было ў Васі?

**7** Даўжыня ломанай *ABC* роўна 21 см. Знайдзі даўжыню звяна *AB*, калі даўжыня звяна *BC* роўная 1 дм 2 см.




**8** У чатырох скрынях ляжыць перац па 9 кг у кожнай. Яго пераклалі ў сеткі па 6 кг у кожную. Колькі атрымалася сетак з перцам?

**9** Рашы ўраўненні.

| | | |
|---|---|---|
| $x + 25 = 82$ | $60 - a = 45$ | $x - 18 = 29$ |
| $4 \cdot x = 36$ | $48 : x = 6$ | $x : 8 = 7$ |

## Урок 52

**1** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

| | |
|---|---|
| 8 • 3 | : 6 |
| 9 • 4 | |
| 3 • 4 | |

| | |
|---|---|
| 45 : 9 | • 8 |
| 63 : 9 | |
| 54 : 9 | |

| | |
|---|---|
| 18 + 36 | : 9 |
| 81 – 27 | |
| 36 + 36 | |

**2** Для ўпрыгожвання ёлкі купілі некалькі набораў вялікіх шароў па 4 рублі і столькі ж набораў маленькіх шароў па 2 рублі. За вялікія шары заплацілі 12 рублёў. Колькі грошай заплацілі за маленькія шары?

| Цана (р.) | Колькасць | Кошт (р.) |
|---|---|---|
| 4 | Аднолькавая | 12 |
| 2 | | ? |

**3** Знайдзі значэнне выразу $a$ : 10 + 21 пры $a$, роўным 40, 70, 60.

**4*** Здагадайся, якіх лікаў не хапае ў гэтых схемах. Запішы патрэбныя роўнасці.






**5** Ад скрутка дроту адрэзалі $\frac{1}{10}$. Гэта 7 м. Чаму роўная даўжыня ўсяго скрутка дроту?

**6** Вылічы.

(80 – 35) : 9 (80 – 26) : 6 70 : 10 • 7

(68 + 32) : 10 (60 – 54) • 10 81 : 9 • 10

**7** Насця спляла 3 вянкі па 7 кветак у кожным і вянок з 15 кветак. Колькі ўсяго кветак выкарыстала Насця?



**8** Даўжыня прамавугольніка складае $\frac{1}{6}$ ад 54 см, а шырыня — у 3 разы менш. Вылічы перыметр прамавугольніка.

**9** Конь атрымлівае на тыдзень 56 кг аўса. Колькі аўса спатрэбіцца каню на 10 дзён?



**10** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) дзель лікаў 80 і 10 павяліч у 3 разы;

б) рознасць лікаў 87 і 27 паменшы ў 6 разоў;

в) суму лікаў 28 і 12 паменшы ў 10 разоў.



$(4 \cdot 3) \cdot 2 = 24$

$4 \cdot (2 \cdot 3) = 24$

$4 \cdot 2 \cdot 3 = 24$

Перамнажаць лікі можна ў любым парадку. Вынік множання не залежыць ад парадку выканання множання.

$$a \cdot (b \cdot c) = (a \cdot b) \cdot c$$

**1** Перамнож больш зручным спосабам.

$2 \cdot 7 \cdot 5$ $\quad$ $5 \cdot 4 \cdot 2$ $\quad$ $3 \cdot 8 \cdot 2$ $\quad$ $2 \cdot 3 \cdot 5$

**2** З дроту даўжынёй 81 см зрабілі трохвугольнік і шасцівугольнік. Даўжыні ўсіх старон трохвугольніка і шасцівугольніка аднолькавыя. Знайдзі даўжыню адной стараны і перыметр кожнай фігуры.




**3** Пеця прачытаў кнігу, у якой 48 старонак, за 6 дзён. За колькі дзён сястра Пеці прачытае кнігу, у якой 64 старонкі, калі ў дзень будзе чытаць такую ж колькасць старонак?

**4**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Памяншаемае | $9 \cdot 7$ | 74 | | $9 \cdot 8$ |
| Аднімаемае | | $9 \cdot 6$ | 50 – 17 | |
| Рознасць | 18 | | 26 | 23 |

**5*** У Тані 25 алоўкаў. Колькі алоўкаў яна можа аддаць сяброўцы, каб у яе засталося на 9 алоўкаў больш, чым у сяброўкі?

**6** Выканай заданне па ўзоры.

**12 • 4 = 2 • 6 • 4 = 8 • 6 = 48**

15 • 3    15 • 2    18 • 3

14 • 4    16 • 3    12 • 2



?, старэйшая ў 4 разы    9 гадоў

**7** Колькі гадоў будзе маме і дачцэ праз 4 гады? На колькі гадоў мама была старэйшая за дачку 4 гады назад?

**8** Каля курыцы 5 куранят. Гэта на два кураняты менш, чым у кошыку. Колькі ўсяго куранят?





**9** Даўжыня сшытка 20 см, гэта на 4 см больш, чым шырыня. Чаму роўная сума даўжынь усіх старон сшытка?

**10** Вылічы.

27 : 9 + 9    20 – 2 • 8    0 : 9 – 0 • 8

36 – 18 : 3    27 : 3 + 6    8 : 1 – 8 : 8

**1** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
а) суму лікаў 25 і 15 паменшы ў 4 разы;
б) здабытак лікаў 8 і 7 павяліч на 9;
в) дзель лікаў 80 і 8 павяліч у 6 разоў;
г) рознасць лікаў 27 і 17 павяліч у 8 разоў.

**2** Вымерай адрэзак *AB*. Начарці адрэзак у 2 разы карацейшы.




**3** Знайдзі $\frac{1}{2}$ ад 12, $\frac{1}{3}$ ад 27, $\frac{1}{9}$ ад 81, $\frac{1}{5}$ ад 50, $\frac{1}{8}$ ад 64.

**4** Расфасавалі 70 кг апельсінаў і некалькі кілаграмаў груш у пакеты. Маса аднаго пакета з апельсінамі 10 кг, а з грушамі — 9 кг. Колькі было кілаграмаў груш, калі пакетаў з апельсінамі і грушамі атрымалася пароўну?

**5** Знайдзі памылкі.

| | |
|---|---|
| $30 - 12 : 4 = 5$ | $32 : 8 \cdot 2 = 8$ |
| $25 - 9 - 4 = 20$ | $5 + 5 \cdot 4 = 40$ |
| $40 - 24 + 5 = 10$ | $48 - (24 - 10) = 14$ |

**6** Перыметр прамавугольніка роўны 20 см. Ці можа адна з яго старон быць роўнай 10 см?

**7** З лікаў ад 10 да 75 выпішы тыя, што дзеляцца на 8.

**8*** У пакоі стаяць табурэткі і крэслы. У кожнай табурэткі 3 ножкі, у крэсла — 4. Калі на ўсе табурэткі і крэслы сядуць людзі, то будзе разам 39 ног і ножак. Колькі крэслаў і колькі табурэтак у пакоі?



**9** $\gtrless=$ 7 • 9 * 9 • 7 　　　 1 г * $\frac{1}{2}$ г

10 • 9 – 10 * 10 • 9 + 10 　　　 20 мін * $\frac{1}{3}$ г

77 см * 7 дм 7 см 　　　 60 мін * 12 г

**10** Стораны прамавугольніка — 15 см і $y$ см. Запішы выраз для вылічэння перыметра прамавугольніка. Знайдзі перыметр пры $y$, роўным 10, 1.

**11** Расстаў дужкі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

4 + 6 • 3 = 30 　　　 31 – 10 • 3 = 63

8 • 4 – 2 = 16 　　　 24 : 4 • 2 = 3

4 • 7 – 4 : 2 = 6 　　　 28 – 18 : 2 = 5

## Урок 55

**1** Рашы прыклады і даведаешся назву мацерыка, на якім горача і мала вільгаці, а самы вялікі горад — Сіднэй.

| | |
|---|---|
| Ў | 42 : 7 + 66 |
| А | 90 : 10 + 18 |
| Р | 72 : 9 + 39 |
| Л | 64 : 8 • 4 |
| Я | 54 : 6 + 25 |
| І | 40 – 24 : 8 |
| А | 24 + 21 : 7 |
| Т | 80 : 8 • 0 |
| С | 76 – 40 : 4 |



| 27 | 72 | 66 | 0 | 47 | 27 | 32 | 37 | 34 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |

**2** Гаспадыня разліла 12 л малака ў 4 аднолькавыя слоікі, запоўніўшы іх цалкам. Колькі такіх слоікаў спатрэбіцца для 6 л малака?

**3** Па схемах запішы выразы і знайдзі іх значэнні.



**4** Стораны прамавугольніка падзелены на сантыметры. Злучы пункты дзялення так, каб атрымаліся квадраты. Колькі квадратных сантыметраў змяшчае прамавугольнік?



**5*** Колькі ў бабулі кошак і пеўняў, калі ўнук налічыў 5 галоў і 16 ног?



**6** Рашы ўраўненні.

$18 + 11 - x = 13$  $37 - 9 + x = 49$  $x : 9 = 16 - 8$

**7** У класе 8 дзяўчынак. Яны складаюць $\frac{1}{3}$ усіх навучэнцаў класа. Колькі ўсяго дзяцей у класе?

**8** У школу прывезлі 18 парт, а сталоў — на 12 менш. У колькі разоў больш прывезлі ў школу парт, чым сталоў?

**9** $> < =$

1 дм 9 см * 1 м

7 дзяс. 5 адз. * 5 дзяс. 7 адз.

1 г 13 мін * 72 мін

2 адз. 4 дзяс. * 42 адз.





$2 \cdot 3 = 6$ $\qquad$ $6 : 3 = 2$

$20 \cdot 3 = 60$ $\qquad$ $60 : 3 = 20$

2 дзяс. · 3 = 6 дзяс. $\qquad$ 6 дзяс. : 3 = 2 дзяс.

**1** Вылічы па ўзоры.

**2 · 20 = 20 · 2 = 2 дзяс. · 2 = 4 дзяс. = 40**

$2 \cdot 30$ $\qquad$ $3 \cdot 30$ $\qquad$ $4 \cdot 20$ $\qquad$ $2 \cdot 40$

**2** Павяліч у 2 разы лікі 10, 20, 30, 40, 50.

**3** Паменшы ў 3 разы лікі 90, 60, 30, 15.

**4** Праз раку пабудавалі мост. Ён мае 3 пралёты. Даўжыні моста і сярэдняга пралёта ўказаны на рысунку. Знайдзі даўжыню крайніх пралётаў, калі яны роўныя паміж сабой.



**5** Даўжыня прамавугольніка 3 дм, а шырыня — у 5 разоў меншая. Чаму роўны перыметр прамавугольніка?

**6** Рашы ўраўненні.

$3 \cdot b = 60$ $80 : a = 4$ $x : 3 = 30$

**7*** Зрабі ў сшытку такі рысунак. Назаві «імёны» пунктаў, паказаных на рысунку. Пазнач пункты: (2; 3), (2; 4), (2; 5).




**8** $80 : 4 * 80 : 2$

$20 \cdot 3 * 20 \cdot 4$

$10 \cdot 0 * 91 - 0$

$50 : 1 * 50 \cdot 1$

**9** а) Колькі сантыметраў у $\frac{1}{2}$ м, $\frac{1}{5}$ м, $\frac{1}{10}$ м?

б) Колькі мінут у $\frac{1}{2}$ г, $\frac{1}{3}$ г, $\frac{1}{6}$ г?

**10** На талерцы было 16 піражкоў. Чацвёртую долю ўсіх піражкоў узяў брат, астатнія падзялілі пароўну паміж сабой тры сястры. Колькі піражкоў атрымала кожная сястра?

**11** Вылічы.

$20 \cdot 2 : 4$ $45 + 40 : 4$ $70 + 30 : 3$

$80 : 8 + 27$ $90 - 60 : 6$ $100 - 40 \cdot 2$



$(3 + 2) \cdot 3 = 5 \cdot 3 = 15$

$(3 + 2) \cdot 3 = 3 \cdot 3 + 2 \cdot 3 =$

$= 9 + 6 = 15$



Каб памножыць суму на лік, можна памножыць на гэты лік кожнае складаемае і атрыманыя здабыткі скласці.

$$(a + b) \cdot c = a \cdot c + b \cdot c$$

**1** Вылічы.

$(3 + 7) \cdot 4$ $(5 + 3) \cdot 3$ $(3 + 8) \cdot 3$

$(5 + 4) \cdot 9$ $(8 + 1) \cdot 9$ $(4 + 9) \cdot 2$

**2** Да абеду прадалі 4 каробкі пячэння па 8 кг у кожнай. Пасля абеду — 3 такія ж каробкі. Колькі кілаграмаў пячэння прадалі за дзень? Рашы задачу рознымі спосабамі.







**3** Рашы ўраўненні.

$x : 3 = 20 : 2$ $27 - x = 40 : 4$

$x \cdot 10 = 50 : 5$ $x + 21 = 24 \cdot 2$

**4*** Брат павіншаваў сястру з днём нараджэння. Калі яго спыталі, колькі гадоў сястры, ён адказаў: «Праз тры гады яна будзе ўдвая старэйшая, чым тры гады назад». Колькі гадоў сястры?

**5** Вылічы па ўзоры.

**$7 \cdot (10 + 2) = 7 \cdot 10 + 7 \cdot 2 = 70 + 14 = 84$**

$3 \cdot (30 + 3)$ $2 \cdot (20 + 3)$ $6 \cdot (2 + 10)$

$7 \cdot (8 + 2)$ $3 \cdot (30 + 1)$ $4 \cdot (10 + 2)$

**6** Знайдзі $\frac{1}{2}$ ад 40, $\frac{1}{5}$ ад 50, $\frac{1}{8}$ ад 72, $\frac{1}{4}$ ад 36.

**7** Стораны прамавугольніка — 20 см і 4 см. Запішы выраз для знаходжання перыметра прамавугольніка і вылічы яго.

4 см

20 см

**8** У двух букетах 10 кветак. Колькі кветак у 6 такіх букетах? Рашы задачу рознымі спосабамі.



**9** Суму здабыткаў запішы здабыткам па ўзоры.

**$3 \cdot 6 + 4 \cdot 6 = (3 + 4) \cdot 6 = 7 \cdot 6 = 42$**

$2 \cdot 7 + 3 \cdot 7$ $4 \cdot 3 + 3 \cdot 3$ $3 \cdot 4 + 5 \cdot 4$

$4 \cdot 6 + 5 \cdot 6$ $6 \cdot 2 + 2 \cdot 2$ $2 \cdot 2 + 8 \cdot 2$



**24 • 3 = ☐**

20 + 4

24 • 3 = [20] • 3 + [4] • 3 = 60 + 12 = 72

**Алгарытм**

**1.** Двухзначны лік прадстаўляю сумай разрадных складаемых.

24 = 20 + 4

**2.** Кожнае складаемае множу на адназначны лік.

(20 + 4) • 3 = 20 • 3 + 4 • 3

**3.** Атрыманыя здабыткі складаю.

60 + 12 = 72

**1** Вылічы.

13 • 5 2 • 34 42 • 2 2 • 39 25 • 3

**2** У класе 24 вучні. Пасля таго як Максім на свой дзень нараджэння раздаў кожнаму па 4 цукеркі, засталося яшчэ 4 цукеркі. Колькі цукерак было ў Максіма?

**3** Знайдзі значэнні выразаў.

14 • 2 – 20 21 • 3 – 2 • 20 30 • 3 – 4 • 22

13 • 3 – 3 • 10 100 – 0 • 13 3 • 20 + 12 • 3

**4** Рашы ўраўненні.

$a : 13 = 4$  $60 : b = 3$  $x \cdot 2 = 80$

**5*** У Марыны, Каці, Соні, Ніны, Лізы і Тані былі два сабакі і чатыры кошкі. У Соні і Лізы былі аднолькавыя жывёлы, у Лізы і Марыны — розныя, у Каці і Соні — аднолькавыя, у Соні і Марыны — розныя. У каго была кошка, а ў каго быў сабака?

**6** Вучань начарціў 2 квадраты. Перыметр першага квадрата роўны 24 см, другога — 36 см. На колькі сантыметраў старана другога квадрата даўжэйшая за старану першага квадрата? Рашы задачу рознымі спосабамі.

**7** 8 м 6 дм = ☐ дм  90 мін = ☐ г ☐ мін

6 дм 4 см = ☐ см  25 дм = ☐ м ☐ дм

4 дм 2 см = ☐ см  45 см = ☐ дм ☐ см

5 дм 7 см = ☐ см  1 г 20 мін = ☐ мін

**8** Для ўрокаў працоўнага навучання купілі 6 набораў каляровай паперы па 12 лістоў у кожным наборы. На вырабы зрасходавалі 40 лістоў. Колькі лістоў паперы засталося?

**9** Вылічы.

$11 \cdot 4$  $7 \cdot 12$  $16 : 2 + 4 : 2$  $18 : 9 + 27 : 3$

$13 \cdot 5$  $6 \cdot 14$  $0 : 7 + 21 : 7$  $21 : 3 + 18 : 6$







I спосаб: (6 + 4) : 2 = 10 : 2 = 5

II спосаб: (6 + 4) : 2 = 6 : 2 + 4 : 2 = 3 + 2 = 5

Каб падзяліць суму на лік, можна кожнае складаемае падзяліць на гэты лік і атрыманыя дзелі скласці.

$$(a + b) : c = a : c + b : c$$

**1** Вылічы зручным спосабам.

| | | |
|---|---|---|
| (6 + 15) : 3 | (11 + 13) : 6 | (12 + 28) : 8 |
| (6 + 27) : 3 | (40 + 32) : 8 | (54 + 18) : 6 |
| (6 + 21) : 3 | (48 + 16) : 8 | (36 + 12) : 6 |

**2** 20 трактароў і 12 легкавых машын пагрузілі на платформы па 4 на кожную. Колькі платформ было выкарыстана? Рашы задачу двума спосабамі.

**3** 

| | |
|---|---|
| 7 дм 8 см і 78 см | 4 м 7 дм і 4 м 70 см |
| 85 мін і 1 г 15 мін | 65 мін і 1 г 5 мін |

**4** Параўнай фігуры па плошчы.



**5** Прыдумай ураўненні з лікамі.

100 і 52 100 і 10 73 і 27

**6*** Пеця глядзіць на гадзіннік і бачыць, што праз 3 абароты секунднай стрэлкі ён будзе паказваць 3 гадзіны. Колькі часу будзе паказваць гадзіннік праз 30 абаротаў секунднай стрэлкі?




**7** У каробцы 24 цукеркі. З'елі $\frac{1}{3}$ усіх цукерак. Колькі цукерак засталося ў каробцы?

**8** Дзеці гулялі ў крыжыкі. Калі яны паставілі крыжыкі ў 29 клетках, то свабодных клетак засталося на 6 больш, чым перакрэсленых. Колькі ўсяго было клетак у квадраце, што нарысавалі дзеці?

**9** Вылічы.

(15 + 24) : 3 (16 + 40) : 4 (12 + 42) : 6

(18 + 72) : 9 (8 + 48) : 8 (14 + 49) : 7



**39 : 3 = ☐**

30 + 9

39 : 3 = 30 : 3 + 9 : 3 = 10 + 3 = 13

**Алгарытм**

**1.** Прадстаўляю двухзначны лік сумай зручных складаемых.

39 = 30 + 9

**2.** Кожнае складаемае дзялю на лік 3.

(30 + 9) : 3 = 30 : 3 + 9 : 3

**3.** Атрыманыя дзелі складаю.

10 + 3 = 13

**1** Вылічы па ўзоры.

**52 : 2 = (40 + 12) : 2 =**
**= 40 : 2 + 12 : 2 = 20 + 6 = 26**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 75 : 5 | 45 : 3 | 64 : 4 | 90 : 5 |
| 81 : 3 | 50 : 2 | 72 : 3 | 57 : 3 |

**2** У школьным садзе вучні сабралі 90 кг яблыкаў і 42 кг груш і расклалі паасобку яблыкі і грушы ў скрыні па 3 кг у кожную. На колькі больш было скрынь з яблыкамі, чым з грушамі?

**3** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 5 = 60$ $3 \cdot x = 66$ $57 : x = 3$

**4** На дарогу да школы вучню трэба 40 мінут. Калі ён павінен выйсці з дому, каб прыйсці ў школу ў 8 гадзін 15 мінут?

**5*** З лагера выйшлі Вася, Раман, Толя, Лёня і Міша. Толя ідзе паперадзе Мішы, Лёня — паперадзе Васі, але ззаду Мішы, Раман — паперадзе Толі. Хто ідзе першым і хто ідзе апошнім? Хто ідзе ўслед за Мішам і хто ідзе перад Мішам?



**6** Невядомы лік павялічылі ў 3 разы і атрымалі 45. Знайдзі гэты лік.

**7** Колькі на рысунку адрэзкаў; праменяў? Запішы.




**8** Адзін чабан з 6 авечак настрыг 24 кг воўны, а другі з 8 авечак — 40 кг. Які з чабаноў настрыг больш воўны з адной авечкі? На колькі?

**9** Вылічы.

$(72 - 54) : 9$ $80 - 64 : 8$ $24 \cdot 3 - 18$

$(80 - 64) : 8$ $84 : 2 + 15$ $5 \cdot 16 - 11$

$72 - 54 : 9$ $70 : 5 - 0$ $24 \cdot 4 - 24$



**64 : 16 = ☐ (падборам)**







2 • 16 = 32 (лік 2 не падыходзіць)
3 • 16 = 48 (лік 3 не падыходзіць)
4 • 16 = 64 (лік 4 падыходзіць)

**64 : 16 = 4**

**1** Знайдзі дзель спосабам падбору.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 26 : 13 | 42 : 14 | 72 : 18 | 45 : 15 |
| 60 : 30 | 80 : 20 | 90 : 30 | 90 : 10 |
| 80 : 16 | 90 : 15 | 40 : 40 | 100 : 20 |

**2** Знайдзі ўраўненні, у якіх $x = 6$.

| | | |
|---|---|---|
| $x + 6 = 16$ | $x - 2 = 12$ | $x : 2 = 12$ |
| $24 - x = 18$ | $48 : x = 6$ | $12 : x = 2$ |

**3** а) Перапынак пачаўся ў 9 гадзін 15 мінут, а закончыўся ў 9 гадзін 25 мінут. Колькі мінут быў перапынак?
б) Перапынак закончыўся ў 10 гадзін 10 мінут, а працягваўся 20 мінут. Калі пачаўся перапынак?
в) Перапынак пачаўся ў 9 гадзін 15 мінут і працягваўся 20 мінут. Калі закончыўся перапынак?

**4** Выпішы выразы, лікавае значэнне якіх роўнае 24.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 : 2 | 25 – 0 | 3 • 8 | 24 : 1 |
| 24 • 0 | | | 24 – 1 |
| 24 : 24 | **24** | | 57 – 32 |
| 50 – 26 | | | 6 • 4 |
| 72 : 3 | 12 • 2 | 8 • 4 | 0 : 24 |

**5*** Наташа нарысавала 7 кветак. Калі яна падлічыла колькасць усіх пялёсткаў, то атрымалася 47. Колькі рамонкаў і васількоў нарысавала Наташа? Рашы задачу спосабам падбору.



**6** Колькі квадратных сантыметраў змяшчае прамавугольнік? Якая доля прамавугольніка зафарбавана?



**7** Было 45 сшыткаў у клетку і 52 — у лінейку. Вучням выдалі 36 сшыткаў у клетку і 25 — у лінейку. У колькі разоў больш засталося сшыткаў у лінейку, чым у клетку? На колькі больш?

**8** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 100 : 25 | 90 : 18 | 50 : 50 | 92 : 2 |
| 96 : 2 | 99 : 11 | 100 : 50 | 76 : 2 |



17 • 5 = 85

**Праверка**

85 : 5 = 17 або 85 : 17 = 5

Множанне правяраецца дзяленнем.

**1** Знайдзі здабыткі і выканай праверку.

16 • 3 24 • 2 48 • 2 25 • 3

**2** Купілі 3 каробкі каляровых алоўкаў па 20 алоўкаў у кожнай і 15 простых алоўкаў. Колькі ўсяго алоўкаў купілі?




**3** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

а) дзель лікаў 12 і 3 павяліч на 17;
б) лік 20 павяліч на дзель лікаў 28 і 2;
в) ад ліку 40 аднімі дзель лікаў 24 і 2;
г) рознасць лікаў 50 і 29 падзялі на 3.

**4** Расстаў знакі дзеянняў так, каб роўнасці сталі правільнымі.

(2 * 8) + (3 * 8) = 40 (3 * 4) + (2 * 3) = 18

(3 * 4) – (2 * 6) = 0 (3 * 6) – (2 * 2) = 14

**5*** Дзялімае большае за дзель у 4 разы. Рознасць дзялімага і дзельніка роўная 15. Знайдзі дзялімае, дзельнік, дзель.

**6** З меха насыпалі па 3 кг мукі ў кожны з 2 пакетаў. У мяху засталося 35 кг мукі. Колькі кілаграмаў мукі было ў мяху?




**7** Вылічы.




**8** Старана квадрата роўная $a$ см. Складзі выраз для знаходжання перыметра квадрата. Знайдзі значэнне перыметра пры $a$, роўным 20, 15.

**9** На верхняй паліцы 45 кніг, а на ніжняй — два разы па 15 кніг. На колькі больш кніг на верхняй паліцы, чым на ніжняй?

**10** Вылічы.

(20 + 15) • 2 (17 + 13) • 3 (11 + 19) • 3

## Урок 63



$36 : 12 = 3$

**Праверка**

$3 \cdot 12 = 36$ або $36 : 3 = 12$

Дзяленне правяраецца множаннем або дзяленнем.

**1** Выканай дзяленне і зрабі праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 90 : 5 | 44 : 2 | 66 : 33 | 90 : 30 |
| 55 : 11 | 75 : 5 | 48 : 12 | 88 : 4 |

**2** Саша на 8 рублёў купіў марожанае па 2 рублі за порцыю. На 12 рублёў ён купіў столькі ж шакаладак. Знайдзі цану шакаладкі.

**3** Запішы коратка адказы на пытанні задач.

а) Надзя рашыла 4 прыклады. Гэта трэць усіх прыкладаў. Колькі прыкладаў трэба рашыць Надзі?

б) Коля пабяліў 3 дрэвы. Яму трэба было пабяліць 9 дрэў. Якую долю дрэў пабяліў Коля?

**4** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 75 : 5 + 18 | 88 : 22 + 17 | 34 • 2 – 9 |
| 51 : 3 + 29 | 99 : 33 + 38 | 72 : 4 + 18 |
| 85 : 5 + 40 | 44 : 22 + 18 | 64 : 4 + 20 |

**5*** У двух пакетах 2 дзясяткі яек. Калі з першага пакета ўзялі 2 яйкі, то ў пакетах яек стала пароўну. Колькі яек было ў кожным пакеце першапачаткова?



**6** 50 см * 20 дм  
3 дм * 35 см  
2 м * 30 дм  
1 м * 10 дм  
2 дм 8 см * 3 дм  
5 дм * 4 дм 7 см  
1 г 15 мін * 90 мін  
70 мін * 1 г 5 мін

**7** Стораны прамавугольніка — 15 см і 9 см. Вылічы яго перыметр пры дапамозе дзеянняў складання і множання.

**8** Ад дроту даўжынёй 87 м адрэзалі 4 разы па 15 м. Колькі метраў дроту засталося?




**9** Вылічы.

27 : 9 + 9  
36 – 18 : 3  
45 – 9 • 4  
63 + 3 • 9  
20 – 2 • 8  
27 : 3 + 6

## Урок 64

**1** На восеньскім кірмашы сям’я купіла 3 пакеты цыбулі па 7 кг і столькі ж пакетаў морквы па 5 кг. Колькі кілаграмаў гародніны купіла сям’я?

**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 2 • (20 + 4) | (14 + 11) • 4 | 86 : 2 |
| 3 • (11 + 3) | (10 + 0) • 2 | 80 : 5 |

**3*** Бацьку 32 гады, аднаму з яго сыноў 8 гадоў, а другому — 6. Праз колькі гадоў узрост бацькі будзе роўны суме гадоў двух яго сыноў?

**4** Складзі па схемах выразы і знайдзі іх значэнні.

а)




б)




**5** Даільным апаратам даярка за 1 гадзіну можа падаіць 10 кароў. Колькі кароў могуць падаіць 3 даяркі такім жа апаратам за 2 гадзіны?

**6** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 2 см 5 мм + 5 см | 13 дм + 4 дм 8 см |
| 7 м 3 дм + 2 дм | 16 м 30 см – 6 м |
| 65 м 6 дм – 60 м | 70 дм 3 см + 3 дм |
| 2 м 7 дм – 6 дм | 12 дм 9 см – 3 дм |

**7** Перапынак паміж урокамі працягваецца 15 мінут. Гэта $\frac{1}{3}$ усяго ўрока. Колькі часу працягваецца ўрок?

**8** Перыметр квадрата 36 см. Знайдзі яго старану. Пабудуй квадрат, старана якога роўная $\frac{1}{3}$ даўжыні стараны дадзенага квадрата. Знайдзі яго перыметр.

**9** Параўнай, не вылічваючы.

| | |
|---|---|
| $49 \cdot 2 * 48 \cdot 2$ | $(12 + 18) : 6 * (12 + 16) : 6$ |
| $5 \cdot 17 * 19 \cdot 5$ | $4 \cdot (2 + 12) * (10 + 2) \cdot 4$ |
| $36 : 6 * 30 : 6$ | $(16 + 4) : 4 * (16 - 4) : 4$ |

**10** Павяліч лікі 6, 7, 2, 1 у 8 разоў. На колькі адзінак павялічыўся кожны лік?

**11** У 3 «А» класе 25 вучняў. Гэта на 2 вучні больш, чым у 3 «Б» класе. Колькі вучняў у абодвух класах?

**12** У дзвюх скрынях было 24 кг цыбулі. У другой скрыні цыбулі было ў 3 разы больш, чым у першай. Колькі кілаграмаў цыбулі было ў кожнай скрыні?

**13** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $(23 + 17) : 8$ | $(71 - 36) : 7$ | $80 : 8 + 0$ |
| $(19 + 16) : 5$ | $(63 - 27) : 9$ | $42 : (21 - 15)$ |
| $(20 + 45) : 5$ | $(70 - 15) : 5$ | $70 : 70 + 20$ |



**Задача.** Да дня нараджэння мама купіла 2 тарты па цане 9 рублёў. Столькі грошай яна патраціла на 3 аднолькавыя каробкі цукерак. Колькі каштуе 1 каробка цукерак?

| | Цана | Колькасць | Кошт |
|---|---|---|---|
| Торт | 9 р. | 2 | Аднолькавы |
| Цукеркі | ? | 3 | |

**1** Вылічы.

8 • 5 + 19 26 + 4 • 9

90 – 7 • 5 97 – 3 • 8

**2** Узрост сына складае $\frac{1}{5}$ узросту бацькі. Сыну 6 гадоў. Колькі гадоў бацьку?




**3** Колькі метраў тасьмы трэба ўзяць для абшыўкі дывана прамавугольнай формы даўжынёй 3 м і шырынёй 20 дм?

**4** У кнізе 85 старонак. На працягу тыдня Косця чытаў па 10 старонак у дзень. Колькі старонак яму засталося прачытаць?

**5** Запішы прыклады і вылічы.










**6*** Апавяданне пачынаецца на 16-й старонцы, а заканчваецца на 31-й. Колькі старонак кнігі займае гэтае апавяданне?

**7** Запішы сумай разрадных складаемых лікі 37, 82, 95.

**8** Маме 28 гадоў, тата старэйшы за маму на 4 гады, а сын маладзейшы за тату ў 4 разы. На колькі гадоў сын маладзейшы за тату?

**9** Рашы ўраўненні.

$a \cdot 20 = 85 - 25$ $\qquad x : 15 = 30 : 6$

$40 + 15 + x = 65$ $\qquad 90 - 36 + x = 61$

## Урок 66

**1** Швачка пашыла 12 сукенак, зрасходаваўшы на кожную па 4 м тканіны. Столькі метраў тканіны яна зрасходавала на пашыў блузак, выкарыстоўваючы на кожную па 2 м. Колькі блузак пашыла швачка?

**2** Складзі па табліцы ўраўненні і рашы іх.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзялімае | 76 | 60 | $c$ | $e$ | 96 | 80 |
| Дзельнік | $a$ | $b$ | 2 | 6 | 6 | $m$ |
| Дзель | 4 | 4 | 48 | 12 | $k$ | 5 |

**3** Вылічы.

60 : 15 69 : 3 90 : 30
24 : 2 44 : 22 88 : 11
42 : 3 66 : 33 99 : 33

**4** Агарод мае форму прамавугольніка. Яго даўжыня 60 м, а шырыня $b$ м. Якой будзе даўжыня агароджы вакол агарода?




**5*** Турыст павінен быў прайсці 60 км. На другі дзень яму засталося прайсці палавіну таго, што ён прайшоў за першы дзень. Колькі кіламетраў засталося прайсці турысту?

**6** Рашы ўраўненні.

$25 : x = 5$ $80 : x = 40$ $x \cdot 27 = 81$

**7** Замяні суму здабыткам і вылічы.

$9 \cdot 8 + 9 \cdot 2$ $\quad$ $6 \cdot 7 + 4 \cdot 7$ $\quad$ $7 \cdot 2 + 7 \cdot 3 + 7 \cdot 4$

**8** Даўжыня прамавугольніка 23 см. Гэта на 9 см больш, чым шырыня. Знайдзі шырыню прамавугольніка.

**9** Разгледзь рысунак і адкажы на пытанні:
а) якая маса буракоў, морквы і цыбулі разам;
б) у колькі разоў буракі цяжэйшыя, чым морква і цыбуля разам?
Пастаў іншыя пытанні да рысунка, адкажы на іх.


5 кг


35 кг


2 кг

**10** Выразі.

3 м 15 дм = ☐ дм $\quad$ 78 мін = ☐ г ☐ мін
4 дм 7 см = ☐ см $\quad$ 3 дзяс. = ☐ адз.

**11** У школьным садзе 60 дрэў: $\frac{1}{3}$ дрэў — гэта яблыні, $\frac{1}{4}$ — грушы. Колькі ў садзе яблынь і груш разам? На колькі больш у садзе яблынь, чым груш?

**12** Знайдзі дзель.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 20 : 2 | 30 : 3 | 33 : 3 | 26 : 2 | 64 : 2 |
| 99 : 9 | 45 : 3 | 42 : 2 | 86 : 2 | 56 : 4 |

(Назва і нумар установы адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Чабатарэўская** Тамара Мацвееўна
**Нікалаева** Валянціна Уладзіміраўна

**МАТЭМАТЫКА**

*Вучэбны дапаможнік для 3 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання*

У 2 частках
Частка 1

*2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае*

Рэдактар *Н. А. Ваніцкая*
Мастак вокладкі *К. У. Максімава*
Мастакі *В. Я. Каляскова, К. У. Максімава, Д. М. Матарыкін*
Камп'ютарны набор *Н. А. Ваніцкай, А. І. Рамановіч*
Камп'ютарная вёрстка *В. Я. Калясковай, І. М. Кузьмянковай*
Карэктар *Н. А. Ваніцкая*

Падпісана ў друк 26.04.2017. Фармат 70 x 90 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95 + 0,29 форз. Ул.-выд. арк. 4,2 + 0,3 форз.
Тыраж 9 680 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Адукацыя і выхаванне"».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/19 ад 14.11.2014. Вул. Будзённага, 21, 220070, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.

**1. У выразе без дужак, што змяшчае толькі складанне і адніманне, дзеянні выконваюцца ў тым парадку, у якім яны запісаны: злева направа.**

30 – 10 + 5




24 + 12 – 8




**2. У выразе без дужак, што змяшчае толькі множанне і дзяленне, дзеянні выконваюцца ў тым парадку, у якім яны запісаны: злева направа.**

24 : 3 · 4




6 · 8 : 4



**3. У выразе, які змяшчае складанне, адніманне, множанне, дзяленне, спачатку выконваюцца дзеянні множання і дзялення ў парадку іх запісу, а потым — складання і аднімання таксама ў парадку запісу.**

$36 : 4 + 2 \cdot 2$




$72 - 36 : 6 \cdot 2 + 5$




**4. У выразе, які змяшчае дужкі, спачатку знаходзяць значэнне выразу ў дужках.**

$45 + (18 - 7)$




$45 : (19 - 10)$



# ДОЛІ. ПАРАЎНАННЕ ДОЛЕЙ













$$1 = \frac{2}{2} = \frac{3}{3} = \frac{4}{4} = \frac{6}{6}$$

**Каб атрымаць другую, трэцюю, чацвёртую і г. д. долі, трэба цэлае падзяліць на дзве, тры, чатыры і г. д. роўныя часткі.**






$$\frac{1}{2} > \frac{1}{3}$$




$$\frac{1}{3} > \frac{1}{4}$$




$$\frac{1}{4} < \frac{1}{2}$$

# ЗНАХОДЖАННЕ ДОЛІ ЛІКУ І ЛІКУ ПА ЯГО ДОЛІ




12 см

12 : 4 = 3 (см)

Доля ліку знаходзіцца дзеяннем дзялення.




3 · 4 = 12 (см)

Цэлае па яго долі знаходзіцца дзеяннем множання.